*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 1 студзеня 1988 г. № 1 (3411) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## НАВАГОДНІ ЗВАРОТ ДА САВЕЦКАГА НАРОДА

### Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА

Дарагія таварышы!

Апошнія мінуты адлічвае адыходзячы ў гісторыю 1987 год. Кожны год у жыцці чалавека, народа па-свойму непаўторны.

Для нас, савецкіх людзей, 1987 год застанецца ў памяці перш за ўсё як год 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Увесь свет па заслугах ацэньвае значэнне нашай рэвалюцыі, яе ўплыў на лёсы сусветнай цывілізацыі.

У юбілейныя дні мы як бы зверылі свае сённяшнія думкі і справы са світальнымі гадзінамі нашай гісторыі, з ленінскімі ідэямі і першым вопытам іх увасаблення ў жыццё.

Мы яшчэ і яшчэ раз пераканаліся — ленінскія ідэі перамагаюць, рэвалюцыя працягваецца.

Яна працягваецца ў незваротным руху нашага грамадства па шляху прагрэсу, па шляху сацыялізму.

Яна працягваецца ў нашай барацьбе за мір і раззбраенне, за выжыванне і развіццё чалавецтва.

Адыходзячы 1987 год быў годам глыбокіх перамен, буйнамаштабных рашэнняў, годам напружанай працы.

Рашэннямі студзеньскага і чэрвеньскага Пленумаў Цэнтральнага Камітэта партыі, усенародна абмеркаваным і прынятым Законам аб дзяржаўным прадпрыемстве вызначаны асноўныя напрамкі рэвалюцыйнай перабудовы нашага грамадства.

Сёлетні год як бы завяршае яе першы этап. Велізарная заваёва гэтага этапа — новая палітычная і маральная атмасфера, якая склалася ў краіне.

Грамадства выходзіць з застойнага стану, нарастаюць грамадская актыўнасць і адказнасць савецкіх людзей за справы краіны.

Адраджаецца аўтарытэт старанней, добрасумленнай працы.

У грамадскім жыцці ўсё больш усталёўваюцца высокая патрабавальнасць, крытыка і самакрытыка, шырокі дэмакратызм і публічнасць.

Вядома, перабудова ідзе нялёгка і небезбалесна. Не ўсё і не заўсёды атрымліваецца адразу так, як задумана. Старое з боем уступае дарогу новаму.

Але нас з вамі гэта не павінна бянтэжыць. І тым больш нельга адступаць перад цяжкасцямі. Мы ўзяліся за велізарную справу, якая пераўтворыць і нас саміх, і ўсю нашу краіну. Ясна, што гэта не адбудзецца само сабой. Неабходны нашы сумесныя намаганні.

І мы адчуваем нарастаючую падтрымку курсу партыі на перабудову. З кожным днём у нашым народзе мацнее разуменне неадкладнасці новых задач.

А гэта ў канчатковым выніку — самае важнае і самае галоўнае.

Перабудова аказвае ўсё большае ўздзеянне на нашу эканоміку.

Год адыходзячы быў няпростым у гаспадарчых справах, але завяршаем мы яго няблагімі вынікамі ў прамысловасці, капітальным будаўніцтве, сельскай гаспадарцы, на транспарце.

Ажыццяўляюцца буйныя сацыяльныя праграмы па развіццю аховы здароўя, навукі і культуры, сферы паслуг. Больш, чым намячалася, пабудавана жылля ў гарадах і вёсках усіх рэгіёнаў краіны.

Вядома, таварышы, гаворачы аб усім гэтым, мы добра разумеем, што пакуль наша эканоміка не задавальняе многія жыццёвыя патрэбнасці людзей. І наперадзе нас чакае велізарная і нялёгкая работа.

Надыходзячы год павядзе адлік новаму этапу перабудовы. Гэта будзе адказны этап на шляху глыбокага абнаўлення ўсіх бакоў жыцця грамадства — як матэрыяльнага, так і духоўнага.

Перад намі стаяць дзве ўзаемазвязаныя ключавыя задачы — далейшая дэмакратызацыя грамадства і радыкальная эканамічная рэформа.

З 1 студзеня ўступае ў сілу Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве.

Гэта значыць — большасць працоўных калектываў пачне працаваць і жыць ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку, самафінансавання і самакіравання.

Гэта значыць — усім трэба вучыцца быць поўнаўладнымі гаспадарамі вытворчасці.

Гэта значыць — дзейнічаць так, каб у кожным калектыве былі ў пашане творчая праца, ініцыятыва і адказнасць, арганізаванасць і дысцыпліна.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі ўпэўнен, што рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыя, усе савецкія людзі — як гэта бывала не раз на крутых паваротах нашай гісторыі — праявяць уласцівыя ім высокія маральныя якасці, патрыятызм, вытрымку і працавітасць, веру ў будучыню, каб зрабіць новы буйны крок па шляху перабудовы.

І тады жыццё кожнага, несумненна, стане лепшым матэрыяльна і духоўна багацейшым.

Дарагія таварышы! Перспектывы нашага развіцця мы звязваем з мірнай будучыняй чалавецтва.

Трэба будзе яшчэ многае здзейсніць для таго, каб стварыць свет без зброі і страху, свет, у якім у адносінах паміж народамі будуць панаваць павага, узаемаразуменне, супрацоўніцтва.

Важныя крокі да гэтай мэты ўжо зроблены. 1987 год стаў у пэўным сэнсе рубежным, паклаўшы пачатак гістарычнаму працэсу ліквідацыі ядзернай зброі.

Падпісанне на савецка-амерыканскай сустрэчы ў Вашынгтоне Дагавора аб поўнай ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці — буйная падзея ў сусветнай палітыцы, перамога новага палітычнага мыслення.

Гэта поспех усяго сусветнага супольніцтва.

Зроблен першы крок — цяжкі, але і вельмі важны. Ён зроблен у інтарэсах чалавецтва.

Вялікая і неацэнная заслуга савецкага народа. Гераічнымі намаганнямі ён стварыў эканамічны, навукова-тэхнічны і абаронны патэнцыял, які дазваляе нам гаварыць з партнёрамі на роўных.

Настойлівая, самаадданая барацьба нашага народа за мір і ўзаемаразуменне стала часткай адзінага гіганцкага руху ўсіх людзей Зямлі за захаванне сусветнай цывілізацыі, за ўсталяванне міру на планеце.

Мы ўступаем у новы, 1988 год з упэўненасцю, што гэта барацьба будзе нарастаць, будуць зроблены новыя практычныя крокі па шляху ўсеагульнага раззбраення, умацавання давер'я і расшырэння мірнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі.

Мы хочам не проста захаваць свет. Мы хочам, каб ён стаў лепшым, каб у ім было больш справядлівасці і свабоды. Мы за свет, які ўсталёўвае гуманізм на справе, узвышае чалавека працы.

Рэалізуючы нашы сацыяльныя мэты, развіваючы сацыялізм, мы бачым, наколькі цесна звязана гэта з вырашэннем агульначалавечых праблем.

У гэтым сэнсе і наша перабудова мае агульначалавечае значэнне, што накладвае на нас велізарную гістарычную адказнасць.

Таварышы! Няхай новы, 1988 год стане шчаслівым для кожнага з нас, для нашай Айчыны, для ўсіх сумленных людзей Зямлі. Ад імя Цэнтральнага Камітэта партыі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР віншую вас з навагоднім святам.

Са словамі навагодняга віншавання мы звяртаемся да народаў брацкіх сацыялістычных краін, да нашых сяброў ва ўсім свеце.

Няхай новы год стане годам новых перамог працы, розуму і гуманнасці, а значыць — міру і дабра.

З Новым годам, дарагія таварышы!



# НОВЫ ГОД—ПРАЦЯГ ПЕРАБУДОВЫ

**На календары — год 1988-ы. Ён прыняў эстафету ў 1987-га года, поўнага гістарычных падзей, смелых пачынанняў, пераасэнсавання кардынальных пытанняў грамадска-палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і культурнага жыцця.**

**Усё гэта — і плён стваральнай працы, і энергія грамадскай думкі, і жыццёвы вопыт — спатрэбіцца нам і ў новым годзе. Перад кожным з нас адкрываецца агромністае поле дзейнасці.**

**З 1 студзеня 1988 года ўступае ў сілу Закон СССР аб дзяржаўным прадпрыемстве, аб'яднанні. Амаль усе працоўныя калектывы нашай рэспублікі пераходзяць на новыя прынцыпы работы — поўны гаспадарчы разлік. Такім чынам будзе ажыццяўляцца курс на радыкальнае пераўтварэнне гаспадарчага механізму, вызначаны XXVII з'ездам КПСС, чэрвеньскім (1987 г.) Пленумам ЦК КПСС.**

**У мінулым годзе было нямала зроблена для таго, каб прыступіць да выканання найскладаных задач новага этапа перабудовы — этапа практычнай рэалізацыі планаў партыі.**

**У Пісьме Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі камуністам, усім працоўным рэспублікі, апублікаваным у снежні 1987 года, сказана: «Перабудова патрабуе па-ленінску сумленнага і прынцыповага адказу на пытанне: ці з поўнай аддачай мы працуем, ці ўсе наяўныя рэзервы прыведзены ў дзеянне! Трэба прама прызнаць: створаны на беларускай зямлі намаганнямі працоўных рэспублікі з братняй дапамогай усяго савецкага народа велізарны эканамічны, навукова-тэхнічны і культурны патэнцыял выкарыстоўваецца яшчэ недастаткова эфектыўна».**

**На новым адказным этапе развіцця нашага грамадства самае важнае—глыбока і крытычна прааналізаваць ход перабудовы на ўсіх напрамках, ва ўсіх працоўных калектывах і ў творчых арганізацыях.**

**Як вядома, 28 чэрвеня гэтага года адбудзецца XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя, якая разгледзіць ход рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС, асноўныя вынікі першай паловы дванаццатай пяцігодкі і задачы партыйных арганізацый па паглыбленні працэсу перабудовы, меры па далейшай дэмакратызацыі жыцця партыі і грамадства.**

**«Лёс перабудовы партыя звязвае з паглыбленнем працэсаў дэмакратызацыі, — падкрэсліваецца ў Пісьме ЦК КПБ. — Нельга разлічваць на поспех у перабудове без усебаковага разгортвання самакіравання, больш эфектыўнага заахвочвання ініцыятывы і творчасці людзей, развіцця сацыялістычнага спаборніцтва, расшырэння публічнасці, стваральнай крытыкі і самакрытыкі».**

**Найпершай задачай застаецца безумоўнае выкананне планаў 1988 года і пяцігодкі ў цэлым. А дабіцца гэтага можна толькі на рэйках навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі — і ў прамысловасці, і ў аграрным сектары эканомікі.**

**Даўно чакаюць свайго вырашэння праблемы ў сацыяльнай сферы — у будаўніцтве і размеркаванні жылля, у рабоце магазінаў, сталовых, службы быта, бальніц і паліклінік, на транспарце і ва ўстановах сувязі, у камунальнай гаспадарцы, у клубах і спартыўных арганізацыях.**

**Рашаючым у працэсе рэвалюцыйных пераўтварэнняў застаецца чалавечы фактар. Гутарка ідзе аб тым, каб яшчэ больш актывізаваць духоўнае жыццё нашага грамадства, узмацніць барацьбу з усім, што перашкаджае дэмакратызацыі, — «ураўнілаўкай», бюракратызмам, ведамаснасцю, іншымі негатыўнымі з'явамі.**

**«Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі,— сказана ў Пісьме працоўным,—даражыць думкай рабочых і калгаснікаў, вучоных і пісьменнікаў, педагогаў і дзеячаў мастацтва, ветэранаў і моладзі, жанчын». Таму сродкі масавай інфармацыі, у прыватнасці, перыядычныя выданні павінны стаць сапраўднай трыбунай галоснасці і дэмакратызацыі. Шырокае абмеркаванне ўсіх наспелых праблем жыцця неабходна для нармальнай работы партыйных, адміністрацыйных, савецкіх органаў.**

**Год 1988 стане, безумоўна, яшчэ адным важным рубяжом, экзаменам для кожнага з нас. Гэта будзе экзамен на сумленнасць і пачуццё годнасці, кампетэнтнасць і ўменне працаваць, на адказнасць перад народам і наш савецкі патрыятызм.**

## НАШЫ МУЗЫЧНЫЯ НАДЗЕІ



З Акадэмічным народным аркестрам БССР імя І. Жыновіча выступае лаўрэат конкурсу Н. Кавалеўская.

Фота Ул. КРУКА.

**Вось і закончыўся І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў на народных інструментах імя І. Жыновіча. У культурным жыцці Беларусі гэта была сапраўдная падзея, у якой своеасабліва і ярка адлюстравалася даніна памяці выдатнага музыканта Іосіфа Жыновіча, развіццё звязаных з ягонай дзейнасцю традыцый прафесійнага народна-інструментальнага выканальніцтва, неспакойны дух творчага спаборніцтва, якое выявіла новыя імёны.**

**Хто яны, з кім звязаны нашы надзеі на заўтрашні росквіт беларускага народна-інструментальнага мастацтва?**

**Рашэннем журы, якое ўзначальваў народны артыст БССР М. Казінец, першыя прэміі і званні лаўрэатаў атрымалі цымбалісткі Ларыса Рыдлеўская і Наталля Кавалеўская, баяністы Ірына Яраш і Ігар Шэлег; лаўрэатамі другой і трэцяй прэмій сталі цымбалісткі Вольга Мішула, Наталля Труфанава і Галіна Цікач, дамрысты Юрый Валіцкі і Тамара Лясун, балаечнікі Генадзь Бранкоўскі, Сяргей Рэгель і Аксана Макарэвіч, гітарыст Яўген Грыдзюшка, баяніст Віктар Івашка, акардэаністка Ніна Слюсар.**

**Група маладых музыкантаў адзначана дыпломамі і граматамі за актыўны ўдзел у конкурсе, узнагароджана прызамі грамадскіх арганізацый і музычных устаноў рэспублікі. Дыпломамі і граматамі адзначаны канцэртмайстры Н. Жога, Т. Васілевіцкая, Ж. Кіпніс, В. Карасёва, А. Афанасьева.**

**Узнагароджанне пераможцаў прайшло ва ўрачыстай абстаноўцы ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі 28 снежня, тады ж адбыўся канцэрт лаўрэатаў. Сімвалічным фінальным акордам конкурсу прагучалі ў той вечар «Працяжная» і «Карагодная» І. Жыновіча ў выкананні квінтэта цымбалістак-лаўрэатаў і Акадэмічнага народнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам М. Казінца.**

**Больш падрабязная гаворка пра вынікі І Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча будзе змешчана ў бліжэйшых нумарах нашага штотыднёвіка.**

**НАШ КАР.**

# КАБ НЕ РАЗМІНАЛІСЯ...

**Некалькі пераднавагодніх інтэрв'ю ля кіёскаў «Саюздруку» з прадмовай і каментарыямі**



**Адразу ж скажам: мы ведаем, што наш штотыднёвік не належыць да тых выданняў, за якімі ў кіёсках яшчэ да іх адкрыцця выстройваюцца чэргі. Больш таго, ведаем мы і тое, што «ЛіМ» знаходзіцца ў ліку тых выданняў, якія работнікі «Саюздруку» залічаюць у нехадавыя і якія ім, саюздрукаўцам, прыносяць адно толькі лішнія турботы ды страты. Тым не менш, энная колькасць чытачоў ладзяць сувязі з нашым штотыднёвікам праз кіёскі і — не без цяжкасцей. Прынамсі, у рэдакцыю не-не ды і прыходзяць лісты, у якіх чытачы скардзяцца, што досыць часта іхнія памкненні купіць «ЛіМ» у кіёску «Саюздруку» (у розных гарадах і райцэнтрах рэспублікі) канчаліся безвынікова: газеты там не аказвалася. Чаму! Адказ звычайна быў такі: штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» купляе рэдка хто, і таму яны (кіяскёры) бяруць яго мала (адзін-два экземпляры) альбо наогул не бяруць. Пры гэтым кіяскёры, як згаварыўшыся, прычыну непапулярнасці «ЛіМа» бачаць у... беларускай мове: маўляў, каб ён выходзіў па-руску, дык меў бы куды большы попыт і, само сабою, аўтарытэт. Вось так, само сабою — і аўтарытэт! Амаль аўтаматычна... Пра гэта нізавыя работнікі «Саюздруку» гавораць даўно, гавораць адкрыта. А вось саюздрукаўскае начальства на такую «смеласць» не адважваецца. Яно шукае іншыя, больш «прыстойныя» прычыны. Аб чым сведчыць, напрыклад, сумнавядомае выступленне кіраўнікоў Мінскага гарадскога агенцтва «Саюздруку» (П. Кудрэйкі) і Мінскага гарадскога паштамта (А. Маслава), якія заявілі, што, маўляў, беларускамоўныя выданні проста... беззмястоўныя, а таму і не маюць попыту ў чытача. Зрэшты, пра ўсё гэта «ЛіМ» пісаў ужо. Вуснамі саміх жа чытачоў мы ў свой час далі шаноўным таварышам з «Саюздруку» і ўстановы сувязі пераканаўчы і доказны адказ. І згадку пра ўсё гэта робім толькі своеасаблівай прадмоўкай да нашага пераднавагодняга невялікага рэйду па сталічных кіёсках «Саюздруку».**

**Але, але, мы не абмовіліся. Думаючы аб тым, як мацаваць нам у новым годзе сувязі па лініі «чытач — газета — чытач», турбуючыся, каб сувязі гэтыя набывалі новыя формы і выяўленні, мы парашылі непасрэдна пазнаёміцца з нашым чытачом — спаткаць яго суботнім ранкам («ЛіМ», як вядома, трапляе да чытача ў суботу) ля кіёскаў «Саюздруку». Адно — чытацкае пісьмо. І зусім другое — жывы чалавечы кантакт з гэтым самым чытачом. Ды і цікава, урэшце: хто ён, якога веку, якой адукацыі, якога занятку, якога, як кажуць, сацыяльнага статусу! Карацей кажучы, аднаго разу ў суботу мы яшчэ нацямку выйшлі на мінскія вуліцы...**

Першае месца нашага «дзяжурства» — газетны кіёск на ажыўленым скрыжаванні вуліц Якуба Коласа і Сурганава, паблізу тралейбуснага прыпынку. У сем гадзін паднялася ў кіёску шыбіна, і пакупнікі адзін за адным прасілі «Известия», «Социалистическую индустрию», «Советский спорт», «Советскую культуру», «Красную Звезду», «Физкультурник Белоруссии», рэкламны дадатак да «Вячэрняга Мінска», часопіс «За рулем». Усё гэта было прададзена літаральна за гадзіну. Кіяскёрка паспела ўжо трошкі і адсапнуцца, а нашага чытача ўсё не было — «ЛіМ» (пяць экземпляраў) ляжаў у невялікім стосіку іншых «някідкіх», скажам так, выданняў.

Нарэшце, вось ён, урачысты момант: малады чалавек, нават лепш сказаць — юнак просіць «ЛіМ»! Просім яго затрымацца, сказаць колькі слоў пра сябе, пра нашу газету.

**— Андрэй Басалыга, вучуся ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава.**

Басалыга — прозвішча ў Беларусі, вядома, не рэдкае, тым не менш адразу ж згадаліся нашы два вядомыя мастакі-браты Басалыгі. І мы не памыліліся: Андрэй — сын Уладзіміра Басалыгі. Што ж, усё правільна, і няма прычын для іроніі.

Андрэй між тым гаворыць:

**— Чытаю «ЛіМ» даўно, бадай, з таго часу, як наогул пачаў чытаць газеты. «ЛіМ» у нас у сям'і чытаюць усе. Найперш адгортваю тыя старонкі, дзе ідзе гаворка пра выяўленчае мастацтва, архітэктуру, ахову помнікаў гісторыі і культуры. Нядаўна з асаблівай цікавасцю прачытаў артыкул Аляксея Каўко пра Скарыну, пра сувязі яго спадчыны з нашай новай літаратурай. Такіх артыкулаў, наогул публікацый па нашай гісторыі хай будзе ў «ЛіМе» больш... З хваляваннем і надзеяй сачыў за лімаўскай гаворкай пра выкладанне роднай мовы ў школе. Вельмі патрэбная і надзённая гаворка! Не прапускаю і артыкулы на сацыяльна-маральныя тэмы, а таксама аб экалагічных праблемах у рэспубліцы. Яны, бадай, ці не самыя сёння надзённыя. А з літаратурных матэрыялаў не абмінаю вершаў, асабліва маладых. Запомніліся нядаўнія вершы Анатоля Сыса... І — даруйце, спяшаюся на занятні!**

Другім пакупніком «ЛіМа» аказаўся таксама чалавек нашага, лімаўскага «профілю» — мастак Міхась Чэпік. Пагутарыць з ім, аднак, не давялося: чытач наш вельмі спяшаўся, «ЛіМ» ухапіў проста-такі на бягу.

К дзевяці гадзінам у кіёску заставаліся тры экземпляры штотыднёвіка. Кіяскёрка не сумнявалася, што іх таксама купяць, яна нават ведае (у твар), хто. Што ж, мы таксама верылі, што тут чытач і газета не размінуцца, знойдуць адно аднаго. За гэта гаварыла хоць бы само месцазнаходжанне кіёска: паблізу — кватэры і майстэрні многіх нашых мастакоў, не кажучы пра іншых патэнцыяльных чытачоў «ЛіМа». Мы нават падумалі пра тое, што гаспадыня кіёска магла б заказваць не пяць, а значна больш экземпляраў штотыднёвіка. Ужо сама яго назва (штотыднёвік) гаворыць за тое, што ён з поўным правам можа прадавацца не толькі ў суботу, але і ў нядзелю, і ў першыя дні наступнага тыдня.

У тым, што кіяскёры тут вельмі «асцярожнічаюць» (маўляў, лепш не дабраць, чым перабраць!), мы відочна пераканаліся, апынуўшыся праз колькі хвілін на Ленінскім праспекце. На адрэзку ад плошчы Калініна (магазін «1000 дробязей») да вуліцы Б. Хмяльніцкага (кінатэатр «Кастрычнік») — тры кіёскі. Бяруць яны ўсе разам на продаж 21 экземпляр «ЛіМа». У дзесяць гадзін раніцы ні ў адным кіёску не было ніводнага экземпляра. Як жа так? Тут, у бліжэйшым абсягу — тэатральна-мастацкі інстытут, політэхнічны інстытут, мастацкае вучылішча, кінатэатр, акадэмічны гарадок, іншыя арганізацыі і ўстановы, у якіх, несумненна, знайшліся б, ёсць і чытачы «ЛіМа». Чаму ж пра іх

# НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗОНА

**ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ**

**Віталь ТАРАС,**
спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»

**МЯЖА ГЭТАЙ ЗОНЫ ПРАЛЕГЛА НЕ ТОЛЬКІ ПА КАРЦЕ ГРОДНА. ЯНА ПРАЙШЛА ПАМІЖ МНОГІМІ ЛЮДЗЬМІ І НАВАТ ПРАЗ ІХ СВЯДОМАСЦЬ. ПА АДЗІН БОК ГЭТАЙ МЯЖЫ — ВЕДАМАСНЫЯ АМБІЦЫІ, ВУЗКІ ПРАГМАТЫЗМ, ПА ДРУГІ — КЛОПАТ ПРА ЧАЛАВЕКА.**

ВЫСАЧЭЗНЫЯ коміны, з якіх вырываюцца клубы дыму, агромністыя вогненныя факелы над нафтавымі і газавымі радовішчамі яшчэ нядаўна ўспрымаліся намі, як сімвалы НТР. Яны сталі ледзь не абавязковым элементам у індустрыяльных пейзажах мастакоў, у кінафільмах на сучасную тэму, на шматлікіх газетных здымках. Цяпер гэтыя дымы і газавыя шлейфы зніклі з парадных палотнаў. Але іх не паменела на самай справе.

У нядаўна прынятых «Асноўных напрамках развіцця аховы здароўя насельніцтва і перабудовы аховы здароўя СССР» у канстатуючай частцы гэтага важнага дакумента сказана адназначна: «Міністэрствы і ведамствы, мясцовыя Саветы народных дэпутатаў не ажыццяўляюць у належным аб'ёме меры па ахове ад забруджвання вадаёмаў, атмасфернага паветра, глебы...

...у некаторых гарадах канцэнтрацыя шкодных для здароўя рэчываў у паветраным басейне ў некалькі разоў перавышае ўстаноўленыя нарматывы».

Ёсць такія гарады і ў Беларусі. На рэспубліканскім сходзе партыйна-гаспадарчага актыву ў Мінску ў верасні 1987 года адзначалася, што ў апошнія гады неспрыяльная санітарная сітуацыя склалася ва **ўсіх** абласных цэнтрах БССР. А ў Наваполацку, прыводзіў прыклад міністр аховы здароўя СССР Я. І. Чазаў, выступаючы на сходзе, за некалькі гадоў больш як у пяць разоў вырасла колькасць анкалагічных захворванняў. (Прычыны такога становішча даследаваліся не так даўно на старонках «ЛіМа» ў артыкуле «Смог»).

І ў садакладзе міністра аховы здароўя БССР У. С. Улашчыка гаварылася: «У шэрагу гарадоў рэспублікі — Наваполацку, Магілёве, Гродне, Светлагорску і іншых — з-за пастаяннага нарошчвання вытворчых магутнасцей на прадпрыемствах ВА «Палімір», «Нафтааргсінтэз», «Азот».., павольнага ўкаранення прагрэсіўных тэхналогій склалася неспрыяльная экалагічная абстаноўка...».

Усе гэтыя факты я яшчэ і яшчэ раз перабіраў у памяці, углядаючыся праз акно поезда ў шэры змрок зімняй раніцы. Недзе там, ужо блізка, незнаёмы горад са сваёй непаўторнай гісторыяй, са сваім абліччам, са сваімі сённяшнімі праблемамі, радасцямі, клопатамі.

Раптам з халоднай цемры вынырнуў агромністы, бледна-ружовы язык, падобны на полымя ацэтыленавай гарэлкі. Я безумоўна, ведаў з расказаў, што, пад'язджаючы да Гродна, абавязкова ўбачу гэты гіганцкі факел — своеасаблівую візітную картку Гродзенскага «Азоту». Але велізарнае полымя, якое нібыта само па сабе трымцела ў цёмным небе, захапляла сваёй фантастычнасцю, ірэальнасцю — быццам адбываецца гэта на нейкай чужой, невядомай планеце.

Я паглядзеў на сваіх спадарожнікаў-гродзенцаў. Яны спакойна збіраліся, апраналіся, не зважаючы на тое фантастычнае відовішча. Маю пільную ўвагу да яго яны, мусіць, лічылі дзіўнай і незразумелай...

Потым, на заводзе, мне з паблажлівай усмешкай растлумачылі:

— Гарыць? Дык яно і павінна гарэць. Гэта значыць — усё ў парадку.

ПРЫВЯДУ некалькі лічбаў, якія даюць пэўнае ўяўленне пра экалагічную сітуацыю ў Гродне. Яны прыводзіліся ў афіцыйным пісьме гарадской санэпідстанцыі ў гарвыканком летам 1987 года. Некаторыя з іх прагучалі і на абласной канферэнцыі Таварыства аховы прыроды.

Валавыя выкіды шкодных рэчываў вытворчага аб'яднання «Азот» склалі ў 1986 годзе звыш 17 тысяч тон. Вокісу вугляроду — звыш 3 тысяч, араматычных вуглевадародаў — каля 300 тон. Акрамя таго, у паветры зарэгістраваны рэчывы, якіх раней не было — трыхлорэтылен, метанол, фармальдэгід і інш. У выніку сума рэчываў адной накіраванасці ўздзеяння (аміяку і вокіслаў азоту) перавысіла гранічна дапушчальную канцэнтрацыю (ГДК) у горадзе ў паўтара раза.

Цікавая атрымалася ў мяне размова з галоўным інспектарам абласной інспекцыі па ахове атмасфернага паветра Б. Падольным.

— Ніякіх лічбаў я называць не буду, — адразу папярэдзіў інспектар. — Хоць скажу шчыра: падставы для трывогі ёсць. Ні для кога не сакрэт, што ў горадзе за апошнія гады вырасла колькасць алергічных захворванняў, асабліва сярод дзяцей, лёгачных захворванняў...

— Не сакрэт? — перапытаў я са здзіўленнем. — А вось гарадская санстанцыя так не лічыць. Медыкі не пажадалі раскрываць лічбы захворванняў перад карэспандэнтам. Затое звесткі аб забруджванні паветра ў іх ёсць. Хоць, як вы ведаеце, існуючыя інструкцыі здымаюць з санстанцый адказнасць за стан атмасфернага паветра і кантроль за ім.

Мой субяседнік сумна ўсміхнуўся і прывёў у апраўданне вядомы жарт. Калі разведчык хоча выведаць таямніцы і сакрэты падводнікаў, ён звяртаецца да танкістаў. І наадварот.

Інспектар дастаў са скрынкі стала некалькі прыбораў і рознага роду індыкатараў.

— Без гэтых прылад мне на «Азоце» і на любым іншым прадпрыемстве рабіць няма чаго. І ўсё, што вы бачыце, мне прыйшлося даставаць самачынна, па розных каналах. Сваёй лабараторыі, ці нейкага спецабсталявання, у інспекцыі няма. Даводзіцца спадзявацца на дадзеныя ведамасных лабараторый — таго ж «Азоту», у прыватнасці.

Некаторыя лічбы Падольны ўсё ж прывёў, 10 з палавінай тысяч тон газа-пылавых выкідаў у год. «Азот» цвёрда абяцаў выйсці на гэту лічбу да 1990 года. Пад націскам Міністэрства аховы здароўя БССР кіраўніцтва аб'яднання вымушана было даць гарантыі, што ўвядзенне ў дзеянне трэцяй чаргі па вытворчасці капралактаму, будаўніцтва якой пачалося нядаўна, не адаб'ецца на запланаваным зніжэнні выкідаў.

За 1987 год выкіды на «Азоце» знізіліся на 10 працэнтаў. Праўда, справа тут не толькі і не столькі ў прыродаахоўных мерапрыемствах, якія аб'яднанне, канечне ж, праводзіць. Справа ў новай грандвежы па вытворчасці карбаміду (каштоўнай сыравіны для ўгнаенняў). Новае прагрэсіўнае абсталяванне забяспечвае і новы, больш дасканалы ўзровень ачысткі.

Што ж, добра, калі інтарэсы вытворчасці так цесна супадаюць з інтарэсамі ўсіх людзей. Аднак ці азначае гэта, што нам застаецца спадзявацца на навукова-тэхнічны прагрэс і чакаць, пакуль праблемы знікнуць самі па сабе?

ДВАЦЦАЦЬ гадоў назад, калі «Азот» пачаў даваць прадукцыю, ніякіх ачышчальных збудаванняў на ім не было наогул. На хімічным прадпрыемстве, якое размясцілася ледзь не ў самім горадзе, ачыстка лічылася раскошай! Дзесяць гадоў назад, расказваюць старажылы, над заводам яшчэ віліся «лісіныя хвасты» (з-за вокіслаў азоту ў вялікай колькасці дымы набываюць характэрны руды колер). Яны нанеслі шмат шкоды навакольным лясам. Добра яшчэ, што вятры тут у асноўным заходнія і нясуць яны «азотныя» дымы на ўсход ад горада.

Цяпер «лісіныя хвасты» засталіся хіба толькі ў падручніках па хіміі і ахове прыроды. Аднак той факт, што з комінаў дым стаў валіць «пожиже», а коміны становяцца ўсё вышэйшыя (ёсць і такі спосаб «барацьбы» за чысціню паветра; пры ім шкодныя рэчывы проста рассейваюцца на большай плошчы), яшчэ не азначае, што кіраўнікі прадпрыемстваў і ведамстваў перавыхаваліся. Сёння ўсе прадпрыемствы вымушаны выдзяляць сродкі на прыродаахоўныя меры. Але не таму, што іх кіраўнікі пранікліся экалагічнай свядомасцю. Ёсць пастановы партыі і ўрада, законы, якія трэба, хочаш не хочаш, выконваць.

Будзем аб'ектыўнымі. Той жа «Азот» за апошнія гады вылучыў на ахову прыроды мільёны рублёў. У 1986 годзе на заводзе закончылася рэканструкцыя біяачышчальных збудаванняў, і цяпер Нёман у значнай ступені збаўлены ад сцёкаў з утрыманнем аманійнага і нітратнага азоту. Медыкі пацвярджаюць: вада стала значна чысцейшая.

Заводская цэц пераводзіцца з мазутнага паліва на прыродны газ. Гэтыя і падобныя прыклады прыводзіў у размове галоўны інжынер «Азоту» У. Лаўрушка. Але ён самакрытычна прызнаў, што ўсё гэта яшчэ не падстава для захаплення. Поўным вырашэннем ачысткі сцёкаў, напрыклад, з'яўляецца замкнёны водазварот. Аднак гэту праблему хімікам вырашыць пакуль не ўдаецца — не могуць дамагчыся зніжэння ўтрымання соляў у адпрацаванай вадзе.

Працэсамі ачысткі займаюцца вучоныя ва ўсім свеце. Ідэальных спосабаў ачысткі газапылавых сумесяў не знойдзена яшчэ нідзе. І тым не менш, хімічная прамысловасць развіваецца і будзе развівацца ва ўсім свеце і ў нашай краіне гіганцкімі тэмпамі, — упэўнены галоўны інжынер. Напрыклад, капралактам, магутнасці па вытворчасці якога мы нарошчваем, — матэрыял, на сённяшні дзень незамяняльны. Гэта і кордная тканіна, без якой не можа існаваць шынная прамысловасць, гэта і дзесяткі назваў тавараў народнага спажывання. Капралактам купляюць дзесяткі краін свету, нават ЗША.

Ну, а гексаметыленамін, неапінамін, перметрын — наколькі неабходная іх вытворчасць?— не мог не запытацца я. З размовы з урачом па гігіене працы гарадской санэпідстанцыі М. Мучнікам я даведаўся, што планы вытворчасці гэтых прэпаратаў на «Азоце» выклікаюць сур'ёзную заклапочанасць медыкаў. Бо гэта — яды. Праўда, яды супраць грызуноў і насякомых. Напрыклад, адной кроплі гексаметыленаміну, калі капнуць ёй на хвост пацука, хопіць, каб грызун здох (да ведама: пацукі маюць ашаламляльную здольнасць прывыкаць да любых ядаў, выпрацоўваючы да іх устойлівы імунітэт).

— Завод адмовіўся ад вытворчасці гэтых рэчываў, — паведаміў У. Лаўрушка. — Але не таму, што гэта яды. Вас асабіста, напэўна, ніколі не непакоілі тараканы або пацукі? А вось для тысяч і нават мільёнаў людзей у свеце гэта сур'ёзная праблема! Інсектыцыды — рэч неабходная. Але для вытворчасці тых прэпаратаў, пра якія ідзе размова, патрэбны многія кампаненты, сама ж вытворчасць уключае ў сябе мноства стадый.

Адным словам, вытворчасць гэтых рэчываў для завода надта нявыгадная, бо патрабуе вялікіх выдаткаў.

Ну, а калі б было выгадна? — падумалася мне. Санітарны ўрач Мучнік выказаў такое меркаванне: уся бяда, што пытанні аб размяшчэнні вытворчасці той або іншай прадукцыі — у дадзеным выпадку хімічнай — вырашае тэхсавет міністэрства, якому падпарадкавана прадпрыемства. Думка грамадскасці ў разлік не прымаецца. Ды і рэкамендацыі мясцовых улад міністэрства можа праігнараваць.

Парадокс. У наш час, калі наша дзяржава запрашае замежных ваенных спецыялістаў і журналістаў на сакрэтны аб'ект па вытворчасці хімічнай зброі ў Шыханах, калі дзве вялікія дзяржавы з розным грамадскім ладам могуць дамовіцца аб мерах даверу і кантролю паміж сабой, — у той жа самы час планы вытворчасці цалкам мірнай, але небяспечнай, можа стацца, для здароўя людзей прадукцыі ўсё яшчэ застаюцца за сямю пячаткамі.

ПА ГРОДНЕ даўно і ўпарта ходзяць пагалоскі пра небяспечны рост захворванняў у горадзе. Газета «Гродненская правда» ў маі 1987 года надрукавала артыкул пісьменніка А. Карпюка «Яшчэ раз пра галоснасць», у якім перад гарадскімі ўладамі ставілася так сказаць, пытанне: пацвердзіць чуткі і прыняць меры, або абвергнуць іх. Газета атрымала шмат водгукаў, у тым ліку і ад спецыялістаў. Інспектар па ахове паветра Падольны паказваў мне копію свайго пісьма ў газету, у якім выкладаўся ягоны пункт гледжання на сітуацыю. Але ні гэта, ні іншыя пісьмы так і не былі чамусьці апублікаваны.

Было б няправільна ўсю віну за экалагічную абстаноўку ў горадзе ўскладаць толькі на «Азот». Напрыклад, каля палавіны забруджванняў паветра ў Гродне даводзіцца на долю гарадскога транспарту. Дастаткова прайсціся па старых вузенькіх вуліцах горада ў гадзіны «пік», каб адчуць гэта на сабе. Ёсць і іншыя прадпрыемствы. А ўсё-такі «Азот» ёсць «Азот» — флагман прамысловасці абласнога цэнтра.

Ды і прадпрыемства гэта незвычайнае — бесперапыннага цыкла, і прадукцыя патрабуе пільных да сябе адносін.

Некалькі гадоў таму назад на «Азоце» здарылася аварыя — на зямлю выцекла некалькі тон аміяку. Усё ў той раз абышлося...

Ад аварый застрахавацца цяжка. Але і памятаць пра іх магчымасць трэба — асабліва ў нашу эпоху, эпоху Бхапала і Чарнобыля. Чалавек прывыкае да ўсяго, нават да небяспекі. Што ўжо казаць пра нейкія дымы? Дымяць коміны, ну і дымяць. Праўда, аднойчы на прадпрыемстве забілі трывогу — у прамым сэнсе. Звярнуліся да медыкаў, у тым ліку і ў гарадскую СЭС: ратуйце! А здарылася вось што: у выніку тэмпературнай інверсіі (надараецца часам такая з'ява ў атмасферы) паветраны пласт, насычаны дымам і пылам, спусціўся раптам на пляцоўку «Азоту». Людзі пачалі задыхацца.

Зразумела, такое надараецца не кожны дзень. Але самае страшнае, відаць, у тым, што ў навакольным асяроддзі ідзе паступовае, незаўважнае для вока назапашванне шкодных рэчываў, у прыватнасці канцэрагенных. На арганізм чалавека ўздзейнічае, па сутнасці, цэлы букет самых розных элементаў і злучэнняў.

Вядома, напрыклад, што нітратныя злучэнні ў вялікай колькасці ідуць не на карысць арганізму чалавека. У нашай краіне ўстаноўлена дапушчальная сутачная доза нітратаў у рацыёне — 300 міліграмаў, для дзяцей — 100 на кілаграм клубняў. Неспрыяльныя ўмовы надвор'я (вільготнае лета) у 1987 годзе садзейнічалі павелічэнню колькасці нітратаў у бульбе і гародніне. Пра гэта пісалася ў друку. Так, «Гродненская правда» 3 снежня 1987 г. паведамляла: «В отдельных районах — Волковысском, Гродненском, Лидском, Берестовицком — продолжают обнаруживаться высокие концентрации нитратов в картофеле и капусте... Пора обратить пристальное внимание на грамотное использование удобрений». Правільнае ўжыванне ўгнаенняў... Тых самых, у прыватнасці, што выпускае і «Азот».

Мяне асабліва зацікавілі наступныя радкі ў газеце: «Выборочная проверка картофеля с дачных участков показала в отдельных случаях также высокое содержание нитратов. Это говорит о бесконтрольности хранения и учета в хозяйствах минеральных удобрений, которые попадают к гражданам, не имеющим ни малейшего понятия об их использовании».

Пра грамадзян, якія «не маюць паняцця» — г. зн. дачнікаў, я яшчэ скажу. А як вам падабаецца такі факт: вучгас «Прынёманскі» шмат гадоў упарта не жадае ўступаць аб'яднанню «Азот» землі, якія трапілі ў санітарна-ахоўную зону прадпрыемства. Не жадаюць, бо тыя землі даюць немалыя ўраджаі і збожжавых. З бясплатнай падкормкай, так сказаць.

Праўда, і завод не вельмі настойліва імкнецца гэтыя землі выкупіць. Санітарная зона — прадмет старых спрэчак прадпрыемства з Міністэрствам аховы здароўя і гарвыканкомам. Мне нават падалося, што мяжа гэтай зоны пралегла не толькі па карце горада. Яна прайшла паміж многімі людзьмі і нават праз іх свядомасць. Па адзін бок гэтай мяжы — ведамасная абмежаванасць, вузкі прагматызм, па другі — клопат пра чалавека і звычайны цвярозы сэнс.

ЯШЧЭ калі «Азот» будаваўся, хімікі настойвалі, каб санзона была не больш за адзін кіламетр. Міністэрства аховы здароўя дамаглося, аднак, каб зона адпавядала нарматывам і была двухкіламетровай. У зоне аказалася частка жылых дамоў. Перасяленне жыхароў за межы зоны дагэтуль зацягваецца.

Далей даю слова сакратару раённага аддзялення Таварыства аховы прыроды Н. Галабурда, якая разам са мной удзельнічала ў размове з галоўным інжынерам У. Лаўрушкам.

— Уладзімір Іванавіч! Вы кажаце, што перасяленне людзей залежыць не ад завода, а ад гарвыканкома ў першую чаргу. Дапусцім. Ну, а будаўніцтва дач? Мала таго, што вы не робіце пасадку зялёных насаджэнняў у санзоне, дык дачнікі знішчаюць і тыя зялёныя астраўкі, якія ў ёй засталіся. Яны губяць лес — натуральны жывы фільтр!

— Дачы? У санітарнай зоне? — у першы момант я нават не паверыў сваім вушам.

— Так, і між іншым, многія з іх належаць таварыству «Хімік», афіцыйна зарэгістраванаму ў гарвыканкоме. А колькі іх яшчэ будуецца нелегальна! — працягвае Галабурда. — Колькі дрэў высякаюць дачнікі! Некаторых мы штрафуем. Ды што з таго? — з болем дадае яна.

Якім жа быў адказ на гэта галоўнага інжынера?

— Будуюць і будуць будаваць. Ніякімі забаронамі і штрафамі нічога не зробіш...

Што тут скажаш? На жаль, гэта праўда. Ніякімі санкцыямі і пакараннямі не прымусіш людзей думаць. Відаць, калі б можна было, дачнікі з'явіліся б і ў Чарнобыльскай зоне... Я ведаю дачніка, які з гонарам паказваў мне пакет... з ядахімікатам, купленым не за малыя грошы. На пакеце красаваўся надпіс: «Берагчы ад дзяцей і жывёл». А некалі ён жа ганарыўся: набыў свой участак, будзе свая гародніна — без усялякае хіміі, не тое, што ў магазіне.

Зараз, калі многія прадпрыемствы (у ліку іх і «Азот») перайшлі на поўны гаспадарчы разлік, выказваецца меркаванне: трэба, каб яны плацілі за шкодныя сцёкі і выкіды. І не штрафы, як цяпер, а нейкую пастаянную кампенсацыю за шкоду навакольнаму асяроддзю, за кошт фонду зарплаты. Тады б хутка ўсе перавыхаваліся — ад рабочага да міністра. Даводзілася мне гэту думку чуць і ў аддзеле аховы прыроды на «Азоце». Тут перакананы: трэба біць рублём. Іншага *спосабу экалагічнага* выхавання няма.

Ці так гэта? На вялікі жаль, можна знайсці сёння тысячу спосабаў (і, напэўна, знаходзяць), каб абвесці вакол пальца любыя кантралюючыя органы, прыўкрасіць становішча, нешта схаваць ад чужога вока. Калі людзі падманваюць самі сябе, ім вельмі лёгка падманваць і іншых.

Няўжо будзем і надалей пераконваць саміх сябе, што інтарэсы вытворчасці вышэй за інтарэсы чалавека і з упартасцю, дастойнай *лепшага прымянення*, рабіць выгляд, што экалагічная катастрофа — гэта міф, справа далёкай будучыні?

ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

# «ЗВЯЗАНА КРОЎНЫМІ ВЯЗКАМІ...»



Няма асобнае зямлі, якая была б невялікай, як і няма асобнага чалавека, які не быў бы цэлым светам. Родны кут, свет родных людзей маюць невымерную самакаштоўнасць. Пацвярджаецца гэта, апрача ўсяго, яшчэ і тым, што зрэдчас на долю асобнай зямлі выпадае незвычайная місія — факусіраваць у сабе агромністыя духоўныя магчымасці людства ўсяго краю, выяўляць багацце яго духоўнага аблічча. Так на паэтычнай карце краю, а значыць і ўсёй зямлі, сканцэнтравана, нібы ў пераламленні прызмы, засвяцілася раней не вядомая шырокаму колу нашых чытачоў вёска Біскупцы, над рэчкай Гаўя. Гэта край Нёмана. Яшчэ адно наша шчодрае гняздо песні. Калыска песні.

Здаўна помніцца адзін з прачулых вершаў Дануты Бічэль-Загнетавай, у прыватнасці, радкі: «Мяне маці тут нарадзіла, як сасонку ў бары пасадзіла». Аднак нараджалася «доля паэткі», як кажа яна пра сябе, у звычайным беларускім вясковым асяродку — як бы зусім някідкім, непрыкметным, сярод людзей, якіх здавён гісторыя прывучыла глядзець на сябе нейк безыменна, безназоўна: тутэйшыя

**Таму я не гаманлівая,**
**што ўзрасціла зямля**
**неўрадлівая,**
**паракроеная, пясчаная...**
**Тутэйшая...**
**Я звычайная.**

Ды аказалася, што зямля гэта, на якую здавён прывыклі, як і на яе людзей, глядзець, як на небагатую, сухадольна-шэрую — пад колер шарачковай сялянскай світкі, — усё ж такая незвычайная! Яе шчодрасць, першароднасць красы зямной і духоўнай ужо давялі, эстэтычна адкрылі свету многія нашы песняры-класікі. Варта прыгадаць Нёман Якуба Коласа, Нарач Максіма Танка. Гэта дзякуючы іх паэзіі воблік і характар родных мясцін былі ўзняты да сімволікі бацькаўшчыны. Якой жа сіле сыноўняй любові патрэбна было ўмясціцца ў слове, каб адбыўся цуд такога ўзвелічэння!

Нешта падобнае адбылося і ў паэзіі Дануты. Яна не шукала і не шукае гучна-ўзвелічальных слоў для вобраза родных мясцін. Адкуль жа выходзіць уражанне іх незвычайнасці і непаўторнай красы? Перш за ўсё паэтка (буду карыстацца яе самавызначэннем) трывала ўмацавалася ў сваім адчуванні: развіццё вобраза пасаджанай сасонкі мы знаходзім у нізцы «Жывіца», дзе ёсць ужо заглыбленасць самаўсведамлення: «Упарта ўрос у гэты грунт наш род смалістым каранём глыбокім». Адсюль, з такога адчування ці не пайшлі заглыбляцца і шырыцца вымярэнні мастацкага свету паэткі? Вось якой нерушнай свежасцю дыхнула прыродная краса, схопленая ў вобразным выяўленні:

**Загарэлай, спрацаванай, босай,**
**тут мне думаецца найчысцей,**
**дзе драчы-падлёткі пад пракосы**
**шыляцца ад крыкуноў-дзяцей.**
**Дзе, збудзіўшы сонца**
**на дасвецці,**
**промні ў Нёмане казулі п'юць.**

Вершы перасыпаны шчодра, нібы залацінкамі, каларытна-запамінальнымі абразкамі, штрыхамі, дэталямі, толькі што прыкмечанымі ці прыгаданымі, з маленства адбітымі ў зроку, вернутымі са свайго, уласна *спазнанага*, у скарбонку *паэзіі* — з самых разнастайных пластоў і сфер: з побыту, з прыроды, паданняў, вясковай варажбы, з гісторыі. Гэта каштоўная мазаіка, з якой усё больш праступаюць непаўторныя абрысы шырокай карціны народнага быцця. Тут, у бязмежным народным рэчышчы, як і ў лірычным самапазнанні краю, сапраўды «скарбаў не злічыш, не зважыш дабра» — словы, дарэчы, з характэрнага па назве верша «Знітаванасць», дзе ёсць ужо асабістым вопытам набытае. прачулае прызнанне: «Няма анідзе зімкі, вясніцы і лета пяшчотней, чым дорыць штогоду зямелька мая». Заўважце ласкава-пяшчотную асаблівасць маўлення: зімка, вясніца, зямелька... І так — па ўсёй лірыцы: «цалюсенькую ночку», «красёнцы тчэ», «сэрданька змару», «дубовае дзенца» і нават «мой белавежскі зверык!» — пра зубра. А як жа без спачування: ён гэтак сумотна рыкае ў заапарку... Такую лексічную форму прынята называць памяншальна-ласкальнай. Яе многія асцерагаюцца з-за боязі ці то саладжавасці, ці то нейкага здрабнення рэчаў. То ж не дзіцячая паэзія... Але ж на справе — ці здрабняе такая форма рэчы і пачуцці? У вуснах нашай паэткі такое маўленне ў нечым нават характарызуе яе — яно непасрэднае, вельмі натуральнае, нават кранальна-жаноцкае, пяшчотна матчынае. Яно—з глыбінь любові да роднай зямлі. Яно — узвелічае! Яго прамаўляе гістарычная мара народа, у якой аказаліся такія няпростыя шляхі да спраўджання, каб сапраўды па-гаспадарску кахаць яе, сніць пра яе. Каб тварыць хлебадайную шчодрасць яе, карміцельскі:

**Цэлы дзянёк, да працы**
**дасужая,**
**жыта вязала, сена зграбала,**
**ногі самлелі, рукі знядужалі...**

Затое ж—і асалода сапраўднага далучэння да здарова-памоцнай усеачышчальнасці працы, якой ніколі не чужаюцца *рукі паэткі*. Стуль, з вытокава-сялянскай далучанасці да працоўнага клопату, ідзе і тая «слабінка», у якой прызнаецца паэтка: «Слабінку адну маю — шчырасць да людства працы». Знітаванасць з «людствам працы» — гэта, відаць, галоўнае, што сёння не дазваляе разрасціся драме вымушанай адлучанасці ад родных мясцін (у сэнсе гарадскога месцажыхарства). Улюбёнаму сэрцу адчужэнне, магчыма, не пагражае. Бо на справе сэрца жыве па-ранейшаму той жа прыналежнасцю высокай да спрадвечнага грунту продкаў, да іх працоўна-дынастычнага радаводу. Драма тут як бы зусім не да месца. І ўсё ж яна востра праступае ў радках, пазначае ўнутранымі супярэчнасцямі, канфліктнасцю многія вершы паэткі. Вось адзін з ранейшых — «Выток».

**Мяне лета ў горадзе сноўвае.**
**Я — сялянка, жанчына**
**вясковая.**
**Серп зублёны начамі сніцца,**
**без работы баліць паясніца.**

Альбо — ужо больш сталая спроба разабрацца ў сабе, у адольванні супярэчліва-назольных пачуццяў («У Біскупцах»). Тут не толькі ўсведамленне першавыснасці і пачаткаў, што *паспрыялі праявіцца «долі паэткі»*: «Чым валодаю. тут пачалося — процьма шчаснасці, бездань тугі». Таму *яна і* бездань, што растрывожанай журбой захоплівае і роздум сёняшні. Пры сустрэчы з родным котлішчам — толькі хвілінны ўздых аблёгкі: усё ж як бы ў парадку («ля калочка пасецца цялушка, мой знаёмы валун пры мяжы»). Ды вёска, гэтая спрадвечная хавальніца і роднай мовы, і назапашаных маральных каштоўнасцей, чэзне на вачах, вымірае. Толькі ўзятыя ў спадчыну высокія крытэрыі непарушна ашчаджваюцца — як запавет, дадзены на ўсё жыццё. Дый з кожным прыездам вывяраюцца і яшчэ ўсё шчодра жывяцца: «Тут гадуецца людскасць мая» (вобразам роднай людскасці прасякнута ўся лірыка Бічэль-Загнетавай):

**Вымяраю па біскупскай мерцы**
**час занятасці, радасці час.**
**Змарнавала б у горадзе сэрца,**
**каб яно не лунала між вас.**

Лунаць — гэта ўсё ж лунаць. Такога стану, пэўна, недастаткова для падтрымання духоўнага жыцця сэрца. Нельга скідваць з рахунку прызнання, якое хораша, з жартаўлівай журбін*кай выказана ў вершы* «Што недазволенага я зрабіла?». Паэтка ўзважвае, перабірае свае магчымасці — яны чытаюцца ў рэчыўна-канкрэтным і пераносным сэнсах:

**Чысценька я чарэнь падмяла б**
**венікам, звязаным з елачных**
**лап,**
**хлеба духмянага шмат**
**напякла б,**
**каб жа вясковы дух не аслаб.**

Шмат чаго філасафічна тлумачыць жорстка ўсвядомлены сэнс верша «Непазбежнасць», дзе, нібы аб вострыя прэнты, б'ецца жыццёвая неабходнасць, а разам і роздум паэткі. Чаму яно так? «Аблокі—сыну. Бацьку — яма. Прыроду не расчуліць лямант». У радках смыліць свежая незагойнасць трагедыі, што так рана вырвала з уласнай сям'і гаспадара. Заломваннем рук не паможаш. Яна ведае: пасля таго, што здарылася, ужо ёй ды і сыну наканаваны не ружовыя аблокі. Яны, летуценна-ружовыя, увогуле, ці заплывалі надоўга калі-небудзь у яе жыццё? Спадзяванні і мары, з якіх не выходзіць цень трагічнага злому, будзе дужа цяжка спаўняць. Дзе ж сэрцу, гэтаму прыстанішчу жаноцкасці, набрацца моцы, дужасці?

Час вымушае браць «высокую ноту» — лірычная гераіня. прывучаная змалку, па-ранейшаму самааддана «слухае толькі дабро». Адвечная бітва са злом ужо вымагае ад яе, адзінай «галавы сям'і», падвоеных высілкаў, самага мужнага вытрымання ўласнай няўступнасці і самых «дзёрзкіх думак». Маральны максімалізм становіцца ўрэшце мераю мер творчасці і быцця. Абраныя прынцыпы служэння дабру вымушаюць заступацца не толькі *за сябе, але і за іншых.*

Паэтка па-грамадзянску востра адчула: уласнае служэнне справядлівасці — вось што можа падважыць шматлікія напасці, беды і, нарэшце, даць зрушэнне асабістым і агульным вынікам і плёнам («лепш або горш — залежыць і ад тваёй справядлівасці»).

Яе эстэтычнае крэда нарадзілася не дзеля шырокавяшчання: «З цэлым краем думаць сумесна» — гэта сказана не толькі ж пра славутых старажытных друкароў Кузьму і Лукаша Мамонічаў, якія адціскалі Літоўскі Статут («Абрамлялі яго ў пазалоту, быў заказ у друкарні пільны,— друкары высокага лёту — скарбны князства і бурмістр Вільні»). Мы разумеем, што на чыннасць справы гэтых друкароў як бы наклалася грамадзянскае і эстэтычнае крэда, што нарадзілася ў значна пазнейшыя часы. Па сутнасці, аб*вяшчэнне ідзе ад Купалы*: «З цэлым народам гутарку весці». Данута Бічэль-Загнетава не хавае сваёй «прыглядкі» на Купалу. Яна ўлюбёна заглядаецца ў постаць песняра, у яго ўрокі служэння бацькаўшчыне. Гэта ў іх знаходзіць яна апірышча і падтрымку сваёй унутранай дужасці. Якія ж моманты акцэнтуюцца ў шматлікіх вершах, прысвечаных Янку Купалу?

**Нам смеласці прад светам не**
**хапала —**
**руплівай нацыі, не гаваркой.**
**Мы назаўжды, пакуль плыве**
**Купала**
**любові паўнаводнаю ракой.**
**(«Дняпро ў Ляўках»)**

Паўнаводнасцю Дняпра і Нёмана. Але ці мала бачылі гэтыя рэкі і сапраўднай смеласці, мужнасці ў выявах змагарнага духу? І ўсё ж гэтых якасцей — пастаяць за сябе — не заўсёды хапала і хапае. У крутыя гістарычныя моманты трывушчасць знаходзілася. А вось у паўсядзённым быцці—ці заўсёды хапае рызыкі ў барацьбе з адступнасцю, адпетасцю? Трымаць «экзамен» перад постаццю песняра трэба на ўзорах яго «водпаведзей» і няўступнага змагання:

**за слова, скарб шчодры наш**
**стаяць да апошняга тыдня,**
**пакуль не ўцалее наўсцяж**
**ні ценю адпетага злыдня...**
**(«Каля помніка Янку Купалу**
**ў Гародні»)**

Мы народжаны пад «знакам» Янкі Купалы. На з'яўленне гэтай планіды працавалі доўгія стагоддзі. Таму паэтка адчувае сваю глыбокую повязь роднасці з усімі пачынальнікамі і светачамі гуманістычнай думкі і мастацкай культуры свайго краю. Ужо тое, як суперажывальна малюе яна апошні шлях Бурачка Мацея, як эстэтычна праніклівa, да ледзь утаймаванай слязы, дэталізуе і акцэнтуе, сведчыць пра дыяпазон яе духоўных запатрабаванняў (чаго «жадом жадае, пытам пытаецца»): «У Жупранах званы звоняць. Ашмянкі плынь халадзее. На чатырох вараных вязуць Бурачка Мацея». Дэталі нахлынаюць, вярэдзяць («З адкрытых сялянскіх ран капае боль Беларусі», «гора аж слепіць вочы», «слёзы пад вейкамі шорсткімі ў дзецюкоў, бы ў дзяцей»). *У шлях астатні выпраўляюць* жа «паверанага люду», таго, хто ўжо рашуча і нацыянальна ўсвядомлена ўчыняў новаму, наступнаму веку вялікую «пабудку»—абуджэнне, адраджэнне. Каб шлях той ды не быў астатнім, а перайшоў у наступнасць, у мужны і дзейны працяг.

А душа перасмягла прыпадае ўсёй да новых і новых крыніц прычашчэння. Родная Гаўя ад бацькоўскіх вытокаў даплывае да шырокага Нёмана. Перад унутраным зрокам паэткі — уся Беларусь, спрадвечная, гістарычная, змагарная, пакутная, несупынная ў імкненнях да спраўджання запаветнага. Дзівосныя гронкі іменаў. Гронкі назваў мястэчак і мест.

(Заканчэнне на стар. 6).

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# ШТО ПАСЕЯЛІ...

## НЕ ЗУСІМ ПРЫВАТНЫЯ РАЗВАГІ

ДЛЯ пачатку замалёўка з натуры. Ідзе справаздачна-выбарчы сход секцыі паэзіі. На атрыманне літаратурнай прэміі імя Куляшова аднадушна вылучана кніга паэткі Р.

Старшыня. Якія яшчэ будуць прапановы?

Паэт К. У М. таксама сёлета выйшла кніга. Давайце і яе вылучым.

Галасы. Давайце! Давайце!

Паэтка К. А хто яе чытаў?

Паўза.

Паэт Л. Цікава, хто яшчэ ў гэтым годзе выдаваўся?

Сакратар. Я зараз прынясу выдавецкі план.

Старшыня (чытае прозвішчы). А, Б, В... У гэтага ёсць ужо прэмія. Г, Д, Ж... У гэтага таксама ёсць.

Паэт Л. А чаму В. не вылучыць? Малады, здольны.

Галасы. Давайце! Давайце!

Паэтка Н. Слабая кніга.

Паэт Л. (з выклікам). Як гэта разумець — «слабая»?

Паэт В. (нерашуча). Я сябе здымаю.

Галасы. Ён сябе здымае!

Паэт Л. (старшыні). Нічога падобнага, унясіце ў спіс. Дэмакратыя дык дэмакратыя.

Голас. Тады і М. унясіце!

Старшыня. Запісаў. (Зноў чытае.) П, Р, С...

Голас (захоплена). О, давайце і П. вылучым!

Старшыня. А што? І вылучым. Цікавая кніга.

Паэтка В. Ці варта? Першая ўсё-такі...

Шум, перапалка.

Сакратар (старшыні). Яшчэ раз зачытайце план, каб ніхто не выпаў.

Старшыня (пачынае спачатку). У гэтага ёсць.. І ў гэтага ёсць...

Самы малады (не стрываўшы). Вы ў што ператварылі секцыю?! Ганьба! Я «тутэйшым» пра ўсё раскажу!

Паэт А. (падумаўшы). Мусіць, і праўда, таварышы, тое, што тут адбываецца, крышачку смешна.

На гэтых мудрых словах я і спынюся. Хай стоп-кадр дапаможа нам засяродзіцца.

Што і казаць, задача не з простых — выбраць з паэтычнай прадукцыі года лепшую кнігу ці — тым больш — кнігу, вартую Дзяржаўнай прэміі БССР. Каму і рашаць, як не самім паэтам? Яны прафесіяналы, а значыць, валодаюць пэўным мастацкім крытэрыем, яны сочаць за навінкамі, ведаюць здольнасці адзін аднаго. Усё правільна. Але... Гэтае «але» змушае да сінтаксічнай разгорнутасці, адным сказам тут не абыдзешся. Па-першае, тых кніг, пра якія ідзе гаворка на секцыі, большасць прысутных усё ж не чытала. Няма нават такой завядзёнкі, каб на стале ляжалі зборнікі, каб вакол іх узнікалі спрэчкі. Думка членаў секцыі часцей за ўсё засноўваецца на ранейшых кнігах прэтэндэнта або на публікацыях у друку. Лічыцца, што галоўнае — узровень, што кніга — толькі фармальная падстава для таго, каб адзначыць увогуле добрага паэта. Як быццам у добрых паэтаў няма перападаў па якасці! Па-другое, з аўтарам, якога секцыя вылучае, кожны з прысутных моцна «павязаны» цэлым комплексам асабістых ці службовых адносін. Калі члены бюро нарэшце займелі магчымасць выказацца тайна (хоць і ў гэтым выпадку пераважаюць калялітаратурныя меркаванні), то пры публічным вылучэнні кандыдатур далёка не кожны асмеліцца сказаць таварышу па пяру, што яго лепшая кніга яшчэ наперадзе. Часцей за ўсё ён дыпламатычна маўчыць. (Маўчанне, як вядома, ва ўсе часы спрыяла аўтарытэту). Акрамя таго, на любым пасяджэнні знойдзецца «добры дзядзя», які мае звычку гаварыць тое, чаго ніколі не думаў. Здараюцца і досыць пікантныя сітуацыі — калі рэкамендаваны, ухвалены твор атрымлівае ў выніку тайнага галасавання нуль галасоў.

Нарэшце паставім сябе на месца прэтэндэнта. Паколькі вылучэнне звычайна супадае са справаздачай і выбарамі, то на працягу ўсяго пасяджэння ён будзе сядзець, як мыш пад венікам. Выступаць у яго становішчы з крытыкай бюро секцыі (членам якога і сам нярэдка з'яўляецца) або старшыні бюро — раўназначна самагубству. А пры той невялікай колькасці пісьменнікаў, што наведваюць нашы творчыя секцыі, вылучаць можна ўсіх папалоўна. І прапанова паступіла адпаведная: штогод, а не раз у два гады прысуджаць Дзяржаўныя прэміі. Трэба разумець, шэдэўраў у нас паболела. А можа, паболела самалюбства, не падмацаваных творчымі здабыткамі прэтэнзій? Вунь у Туркменіі, як пісала не так даўно «ЛГ», на 140 членаў СП — 28 лаўрэатаў, не лічачы народных...

Зразумейце мой тон як самаіронію. Усе мы — у большай або меншай ступені — асобы зацікаўленыя. Паклаўшы руку на сэрца: хто з нас здольны ігнараваць атрыбуты грамадскага прэстыжу, сярод якіх прэмія — на першым месцы? Нават той, каго мы схільны лічыць аскетам і схімнікам, нейкі момант выдае сваю крыўду на недахоп увагі, на людскую несправядлівасць.

Досыць істотны момант, пра які варта паразважаць, заключаецца ў тым, што добрых пісьменнікаў мы схільны бачыць перш за ўсё ў сваім пакаленні. Калі кожная сястра атрымае па завушніцы («У гэтага ёсць... І ў гэтага ёсць...»), прыходзіць чарга кінуць позірк і ў бок маладзейшых (пра выключэнні я скажу ніжэй). А цяпер памяркуйце: хто з таленавітых мае больш шанцаў быць падтрыманым — незалежны, наравісты ці той, што ўмее дзвюх матак ссаць? Непамернае ўзвышэнне асоб, схільных да маральнага ўтрыманства, паслядоўная арыентацыя на памяркоўнасць і падхалімства маладых не толькі ўнеслі прыкметны разлад у наша «разанаўскае» пакаленне, але і адштурхнулі ад сябе ўсё здаровае, не кранутае гніллю, што ў ім ёсць. Ці трэба цяпер здзіўляцца нігілізму ў адносінах да аўтарытэтаў сярод сапраўды маладых, ахрысціўшых сябе «тутэйшымі»? (Хто чытаў аднайменны твор Купалы, сведчаць, што ў гэта паняцце нашым духсўным бацькам укладзены негатыўны сэнс). Спрабуючы свае неакрэплыя, незацвярдзелыя пакуль рожкі, яны і не збіраюцца дэманстраваць нам сваю лаяльнасць і пашаноту, бо шмат чаго ў нас не прымаюць. Папраўдзе сказана: і пажнеце тое, што сеяце...

Ці толькі гады застою тут вінаваты? Назіраючы за ўзаемаадносінамі пакаленняў, прыходзіш да вываду: у чалавечай псіхіцы існуюць нейкія атавістычныя кропкі, якія не знікаюць і пры самым высокім узроўні развіцця грамадства, асобы. Пры націсканні на іх умелай рукой заўсёды будзе пэўны (падчас — наперад разлічаны) эфект. Па сабе заўважыла: калі маладзейшыя звяртаюцца за парадай, за дапамогай — гэта заўсёды прыемна. Калі трымаюцца воддаль — гэта насцярожвае, раздражняе... І ўсё-такі я — за незалежных. Хто ступае след у след — новай сцежкі не пратопча, новых ідэалаў не сцвердзіць, новай думкі не народзіць.

Атмасфера, якой мы столькі гадоў дыхалі, азаніруецца марудна. Нядаўнія абмеркаванні ў творчых секцыях — яскравы таму доказ. Сумна, але факт: сістэма не спрацоўвае ўжо на пачатковым этапе. Дзе ж гарантыя, што ад памылак застрахаваны прэзідыум, сакратарыят, Камітэт па Дзяржаўных прэміях? Чаму, здараецца, пісьменнік атрымлівае прэмію не за лепшую сваю кнігу? Чаму мы так часта спахопліваемся пасля смерці таленавітых людзей? Вось яно, тое горкае выключэнне, што ўсім нам коле вочы: прагледзелі, маўляў... А «прагледзець» дапамагаюць і групавыя інтарэсы, і творчая рэўнасць, і тыя самыя атавістычныя перажыткі.

Дык што — выходзіць, мы не ў стане быць аб'ектыўнымі? Былі ж, мы ведаем і пападанні «ў дзесятку», іх куды больш, чым промахаў. Ох, ужо гэтыя промахі, гэтая злашчасная лыжка дзёгцю, якая ў апошні час усё часцей прыцягвае ўвагу і саміх пісьменнікаў, і грамадскасці!..

Настане, верагодна, час, калі вылучаць кнігі на прэміі і прысуджаць іх будуць людзі не зацікаўленыя — чытачы. Іншая справа — ці змогуць нас прачытаць па-беларуску? Тады нам і сапраўды не застанецца нічога іншага, як збірацца сваім вузкім колам і дружна крычаць:

— І гэтага давайце вылучым! І гэтага!..

КНІГАПІС

І. НАВУМЕНКА. Летуценнік. Раман, апавяданні. Аўтарызаваны пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1987.

**Значную частку чарговай кнігі Івана Навуменкі на рускай мове займае раман «Летуценнік», у якім пісьменнік праўдзіва паказвае жыццё пакалення, якое, з гонарам вытрымаўшы экзамен у гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у пасляваенны час далучалася да мірнага жыцця. У гэтым творы, як і ў ранейшых, напрыклад, «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», адчувальны аўтабіяграфічныя моманты. Разам з тым пісьменнік пераходзіць да значных абагульненняў, спасцігаючы ўнутраны свет людзей, духоўна блізкіх яму ці тых, хто не сказаць каб кіраваўся ў паўсядзённасці высокімі маральнымі прынцыпамі.**

**Апавяданні, змешчаныя ў кнізе, напісаны ў апошнія гады. Аўтар звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны, прасочвае жыццё герояў у мірны час. На першы план выходзяць духоўныя пошукі чалавека, закранаюцца розныя маральна-этычныя праблемы сучаснасці.**

**Творы на рускую мову пераклалі П. Навуменка, Э. Карпачоў, У. Жыжэнка і іншыя.**

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# Крок насустрач свайму багаццю

**А. Жадан. Жамчужыны думкі. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1987.**

**Навука сістэматызуе адкрыцці ў розных сферах, і дзякуючы гэтаму кожны, хто жадае, мае магчымасць спазнаць дасягнутае і рухацца далей.**

**Але, на жаль, у адной з самых важных сфер нашага жыцця, а менавіта ў сферы чалавечых узаемаадносін, дзе такое вялікае значэнне маюць свае ісціны, належнай сістэматызацыі і паслядоўнага назапашвання не робіцца.**

**Шматвяковы вопыт пераканаў народы ў тым, што неабходна збіраць і прымнажаць аксіёмы маральнага існавання. Зборнікі прымавак, прыказак, павучальных гісторый — гэта крышталізаваны вопыт стагоддзяў, які сфарміравала мудрасць безыменных нашых папярэднікаў...**

**Час ад часу выдаюцца зборнікі выказванняў выдатных пісьменнікаў, філосафаў, урачоў, педагогаў і г. д. Праўда, задума складальнікаў бывае вузкай, прадыктаванай часовым прыватным інтарэсам.**

**Аднак ёсць і іншыя прыклады — зборнік афарызмаў, складзены Анатолем Жаданам, — «Жамчужыны думкі».**

**Гэтае выданне — падзея ў культурным жыцці рэспублікі. Упершыню на маёй памяці зроблена спроба амаль што энцыклапедычнага характару — адлюстраваць дасягненні грамадскай думкі ў сферы чалавечага самавыяўлення.**

**Складальнік прадэманстраваў высокую палітычную і маральную культуру. Гэта выразна заўважаецца і ў выхаваўчым духу кнігі, і ў імкненні да аб'ектыўнасці пры адборы матэрыялу, і ў агульных, добра выяўленых дэмакратычных тэндэнцыях. Зайздрошчу складальніку кнігі: яго душа ўзважыла вялікі свет думкі, каб лепш паказаць яго іншым душам,— ці ёсць справа больш высакародная і карысная? Я дазволю сабе толькі адну заўвагу ў яго адрас: у канцы раздзелаў падаюцца рэкамендацыі пад загалоўкам «Мудрасць на кожны дзень». Гэта спажывецкі загаловак супярэчыць усяму ладу і духу кнігі і таму ў далейшым, думаецца, павінен быць зменены.**

**У скарбніцу мудрасці складальнік змясціў разам з выказваннямі Арыстоцеля, Вергілія, Бальзака, Бялінскага і іншых славутых людзей свету таксама і выказванні беларускіх пісьменнікаў: М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, К. Чорнага, І. Мележа, А. Куляшова, К. Крапівы, В. Быкава, М. Танка, Я. Брыля, А. Русецкага. Я не буду гаварыць зараз, што пералік беларускіх аўтараў можна было б пры жаданні значна падоўжыць (гэта задача другога выдання, якое чакае і, трэба спадзявацца, знойдзе свайго энтузіяста), мне хочацца сказаць, што ўзровень беларускага ўкладу ў скарбніцу думкі свету з'яўляецца вельмі вартасным. Тое нямногае, што выбрана складальнікам з беларускага вопыту, дае быццам згустак нялёгкага, але слаўнага жыцця народа. «Руплівая пчала ўмее збіраць мёд і з горкіх кветак», — гаворыць М. Багдановіч. «Чалавек без радзімы — жабрак»,— дадае Якуб Колас. І заканчвае на высокай гуманістычнай ноце: «Шчасце можа быць поўным толькі тады, калі ўсе навокал адчуваюць сябе шчаслівымі». Заклапочаны будучыняй культуры І. Мележ напамінае: «Мова — вялікі народны скарб. Яе нельга не паважаць, як нельга не паважаць родны народ». К. Чорны падкрэслівае каштоўнасць асобы: «Кожны чалавек — гэта свет». І на самай справе: наколькі пашырае гарызонты асобы духоўны свет іншых людзей, да якога мы маем магчымасць далучыцца.**

**Я быў хлапчуком, калі ўпершыню мне ў рукі трапіўся зборнік выслоўяў. Падумалася: «Вось кніга, якую павінны чытаць і перачытваць увесь час людзі, асабліва людзі, пакрыўджаныя лёсам». Аднак жыццё мяне пераканала ў іншым — такія кнігі ахвотна набываюцца, але менш ахвотна чытаюцца. І, здаецца, я разумею зараз — чаму. Кніга выказванняў, як і кожная мудрая кніга, патрабуе напружанай працы розуму і пачуцця. А да гэтай працы якраз і няздатныя многія людзі. Каб «душа працавала» — патрэбна звычка, якая выпрацоўваецца паступова. Дурань — не таму дурань, што ў яго мазгі горшыя, а таму, што «не разварушыў» іх, не ўмее імі карыстацца, а значыць, прайграе ў параўнанні з тым, хто ўвесь час развівае свае разумовыя здольнасці. Розум — якасць, якая развіваецца ў непасрэднай працы — як здольнасці да музыкі, малявання, спеваў і г. д. Сацыяльная і нацыянальная схільнасць да паспяховай разумовай дзейнасці — агідная і жорсткая байка, якую на працягу стагоддзяў убівалі ў галовы працавітым і пакорлівым людзям — дзеля таго, каб эксплуатаваць іх, карыстацца іх працай і талентам.**

**На жаль, кнігі афарызмаў звычайна застаюцца незасвоенымі якраз тымі, каму яны патрэбны больш за ўсё: хто апусціў рукі, для каго высокія запатрабаванні душы даўно ўжо замяніліся запатрабаваннямі страўніка і прымітыўнымі ўцехамі самалюбства. Мастацкая літаратура ўвесь час папаўняе скарбы мудрасці, але хто сістэматычна перабірае гэтыя перлы, каб паказаць чытачу ва ўсёй прыгажосці і велічы? Хто прапагандуе гэтае багацце, хто клапоціцца, каб была заўсёды і ніколі не праходзіла «мода» на ясную і справядлівую думку?**

**Абставіны жыцця такія, што за магчымасць захаваць і развіць высокія чалавечыя вартасці трэба змагацца ўвесь час, іншы раз драматычна рвучы з былымі сувязямі і абставінамі. І хто з нас ведае, якую дапамогу зняверанай душы могуць даць згусткі мудрага чалавечага вопыту! Недарэчна зводзіць літаратуру да афарызмаў. Але яшчэ больш недарэчна не прызнаваць іх цалкам самастойнага жыцця. Афарызмы — гэта крышталі гора ці радасці, і яны нараджаюцца ў людзей, якія задумваюцца пра свой лёс, пра лёсы суграмадзян і ўсяго свету. У кожным выпадку мы ўлоўліваем толькі малую частку тых цудоўных прасвятленняў, якія нараджаюцца вопытам чалавечага жыцця. Аддаючы належнае «жамчужынам думкі», якія сабраў А. Жадан, трэба памятаць і пра тое, што ўсялякая мудрасць — гэта сцвярджэнне годнасці свайго народа, гэта пераадоленне глупства і невуцтва, пераадоленне апатыі і нявер'я, гэта адкрыццё і сцвярджэнне вечнасці сярод плыні будзённага, гэта абарона прыгажосці і дасканаласці сярод пачварнасці, хоць яна часам і святкуе перамогу.**

**Чытаць афарызмы цяжка, гэта патрабуе асаблівых умоў, адасобленасці і засяроджанасці. Тут пасля кожнай думкі патрабуецца альбо згода, альбо пярэчанне, уласная інтэрпрэтацыя той жа думкі, свой яе паварот, імгненны аналіз сітуацыі сучаснага жыцця — і твайго, і грамадства. Цяжкая праца, але толькі такая праца набліжае душу да разумення сапраўдных законаў прыроды і грамадства, інакш кажучы, да яе волі.**

**Мне здаецца, для нашага народа толькі зараз, у эпоху абнаўлення, якая патрабуе асаблівай адказнасці, асаблівай энергіі, асаблівых адносін да культурнай спадчыны, калі адкрываюцца вялікія магчымасці для здзяйсненняў ва ўсіх абласцях, надыходзіць этап поўнай духоўнай сталасці, якая спалучае нашу мудрасць з мудрасцю народаў усяго свету. І як бы заклікаючы да чытання «цяжкіх кніг», якія патрабуюць працы розуму, пачуццяў і ўяўленняў, я хацеў бы закончыць свае нататкі цытатамі з гэтай кнігі. Я спецыяльна не называю аўтараў гэтых выказванняў, каб абудзіць вашу цікавасць да гэтага выдання:**

— Хто не ведае цану часу — не народжаны для славы.

— Умець жыць — гэта да кожнай кроплі натхнення дабаўляць дзевяноста дзевяць кропель поту.

— Толькі тады станеш чалавекам, калі навучышся бачыць чалавека ў другім.

— Хто не вывучаў чалавека ў самім сабе, ніколі не дасягне глыбокага ведання людзей.

— Калі ты страліш у мінулае з пісталета —будучыня стрэліць у цябе з гарматы.

— Ніякая нацыя не можа дасягнуць росквіту, пакуль не ўсвядоміць, што поле араць — гэтакі ж паважаны занятак, як і пісаць паэму.

— Сапраўдная свабода магчыма толькі там, дзе ўсе рэальна карыстаюцца роўнымі магчымасцямі, дзе ніводзін не можа ехаць на спіне другога.

Эдуард СКОБЕЛЕЎ.

## СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА

**30.X. 1987 г. пад назвай «З любоўю і надзеяй (У працяг адной дыскусіі)» мы надрукавалі артыкул І. Чаркаса, дзе была спроба зірнуць на важныя праблемы сучаснага тэатральнага працэсу праз прызму творчай практыкі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

**Аспрэчваючы галоўныя палажэнні артыкула, да нас з лістом звярнуўся драматург А. Петрашкевіч. Лісту ў рэдакцыю, відавочна, цесна ў межах прыватнай перапіскі, таму мы палічылі магчымым яшчэ раз даць слова І. Чаркасу— і змяшчаем сёння абодва матэрыялы.**

# НЕ КРЫЎДУЮ— ТУРБУЮСЯ...

І САПРАЎДЫ, дзе ж ты быў раней, Іване Чаркас? (Даруй, што на «ты» — бяру прапанаваную табой такую прыязную і такую таварыска-сяброўскую форму дыскусіі. Дыскусія — гэта, братка, такая «штукенцыя», што да чаго толькі не дагаворышся...).

Дык сапраўды, дзе ж ты быў?.. А быў ты, браце Іване, загадчыкам літаратурнай часткі, — падкрэсліваю, літаратурнай, а не абы-якой. І тэатра не абы-якога, а акадэмічнага, Купалаўскага, флагманскага, нацыянальнага. І быў ты на гэтай пасадзе даволі доўга і якраз у тыя гады, калі ён, галоўны тэатр рэспублікі, цяжка хварэў. І я пытаюся ў цябе, Іване Чаркас, ці падаў ты яму кварту чыстай вады з нашае матчынай крыніцы?! Не, не падаў, хоць гэта быў твой не толькі грамадзянскі, сыноўні, але і службовы абавязак. Ты служыў, Іване, а не дзейнічаў, а не працаваў. А калі прыслужваць стала брыдка, звольніўся, каб быць смелым адсекчы ногі разбітаму паралюшам. І пасля ўсяго, што здарылася, ты, былы шаноўны загліт, пытаешся ў чытача: «А хто б пачуў загадчыка літаратурнай часткі, калі не чуюць нават вядучых артыстаў...» (Дарэчы, мяркуючы па дыскусійнаму допісу, ты не так ужо высока іх цэніш, вядучых).

Сорамна, братка, за такую тваю запозненую перабудову. Хоць нехта пагодзіцца і з заўвагай-пасляслоўем штотыднёвіка, што прапанаваны табою «ракурс, погляд знутры» на жыццё тэатральнага калектыву можа падацца досыць нечаканым для нашых чытачоў, адданых прыхільнікаў мастацтва Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Не ведаю, як успрымуць твой артыкул іншыя чытачы, як да яго паставяцца купалаўцы — відаць не адназначна, а я скажу, што ёсць у ім нешта, мякка кажучы, не этычнае, а па многіх тэзісах і не праўдзівае. Памяркуйма так: адсядзець сем гадоў на пасадзе загліта, каб загаварыць цяпер пра сваю бездапаможнасць і нават затурканасць, ды яшчэ ўзяцца пасля гэтага за пяро, каб прааналізаваць «знутры» не лепшае становішча тэатра, — прама скажам, не вялікая мужнасць і не такая ўжо дапамога. Ці хоць бы тое, што пяром тваім вадзіла «надзея на новы ўздым мастацтва першай беларускай сцэны». Пабойся бога, Іване! Пра які новы ўздым ты гаворыш? Каб быў уздым новы, трэба ж, як мінімум, мець уздым стары. Гэта ж відавочна, элементарна, калі падлічыць гледачоў, стаўшы ля парога Купалаўскай хаты. Навошта ж гаварыць абы сказаць? Ды яшчэ заканчваць гэтым сваю споведзь перад чытачом, які не толькі нешта разумее, але і бачыць незайздроснае становішча той самай «першай беларускай сцэны».

Хутчэй за ўсё, п'есы беларускія мала цябе хвалявалі і мала цікавілі. Думаю, што за сем гадоў, намеснік старшыні секцыі драматургіі СП БССР я прачытаў іх намнога больш за цябе, шаноўны Іване. Гэта былі п'есы Марчука і Сауліча, Ткачова і Асташонка, Халіпа і шмат каго іншага — каго ты не ведаеш і ўжо не будзеш ведаць. А ў іх ёсць і маглі б быць творы і для такой высокай трыбуны, як Купалаўская. З твайго ж артыкула я ўлоўліваю і тваё стаўленне да нацыянальнай драматургіі. Тваё крэда: «У сваёй айчыне пракарокаў няма». Такое самае крэда і ў Купалаўскай рэжысуры.

Сцвярджаеш, што «сёння з 19 п'ес для дарослага гледача — 12 належаць беларускім аўтарам». (Маецца на ўвазе тэатр Янкі Купалы). Пабойся бога, братка Іване! Дзве! Дзве арыгінальныя і добрыя п'есы: «Радавыя» і «Мудрамер», а ўсе астатнія былі даўным даўно. Глядач жа не сляпы! Ён жа памятае тое, што бачыць!

З твайго ж, мой даражэнькі, артыкула я раблю выснову, што нібыта з-за адсутнасці нацыянальнай драматургіі флагман беларускіх тэатраў даўно лёг у дрэйф і нясе яго бог ведае куды. Можа, з гэтым хто і пагодзіцца. Толькі небяспека сёння ў тым, што флагман «абцяжараны» зусім не беларускай п'есай. Небяспека ў тым, каб флагман канчаткова не сеў на мель і каб яго з галавою і назаўсёды не накрыла новая драматургічная хваля, якой ты, Іване, на шчасце нацыянальнаму мастацтву, так і не дачакаўся, будучы памочнікам капітана таго самага флагмана. І ці варта наклікаць новыя хвалі, калі пад кілем флагмана так не глыбока?

Не, братка Іване! Флагман — гэта сур'ёзна! Флагман не толькі сам павінен трымацца на плаву і плыць вывераным курсам, але і іншых весці. А з твайго артыкула можна зрабіць выснову, што флагман згубіў каардынаты і не ведае, на якім свеце знаходзіцца.

Трэба выверыць каардынаты. Трэба, каб на капітанскі мосцік узышоў той, хто ведае, куды плысці і дзеля якой мэты. І пажадана для справы, каб і памочнікі і штурман у капітана былі прафесіяналамі. Элементарна, што і каманда флагмана павінна быць адзіная і з'яднаная. А ты, Іване, самадумам дакладна падзяліў яе на 24 лідэры і 36 тых, хто нібыта і плаваць не ўмее. Думаю, што гэта штучны і вельмі адвольны, калі не сказаць шкодны, падзел. У нас не Яфрэмаўскі МХАТ, у нас няма чаго дзяліць. А загубіць і ў нас так лёгка...

Даражэнькі братка Іване! Людзі раяць не лезці ў ваду, не зведаўшы броду. Які ты быў загліт па прафесіі, а не па пасадзе, я не ведаю. У гэтай якасці мы не сустракаліся, п'ес не абмяркоўвалі, на мастацкіх саветах не спрачаліся, дагавораў не заключалі. І калі папрасіць цябе назваць тэлефоны беларускіх драматургаў, хоць бы тых, што жывуць у Мінску, не назавеш, бо не ведаеш, бо ніколі імі не карыстаўся, служачы на такой пасадзе. Жылі і жылі — самі па сабе...

І апошняе, братка Іване, маленькае ўдакладненне. Не трэба было праз паважаную газету крыўдзіць мастацкі савет тэатра Янкі Купалы, нібыта ён «заняў прынцыповую пазіцыю» і адвяргаў усе мае п'есы. Пра тыя п'есы, што ў ім ішлі, гаварыць не будзем, тут жа згода мастацкага савета відавочная. А пра іншыя меркаванні таго ж савета можна дазнацца з яго пратаколаў. А калі майго калегу-драматурга ўласная годнасць вымушае напісаць на сваім творы: «без права пастаноўкі ў тэатрах Мінска», ганьба не драматургу, а тым, хто з ім «папрацаваў» у сябе... дома... І дарэмна ты, браце, у гэтым прызнаўся на ўвесь свет.

Пяром маім, як і тваім, братка, вадзіла не крыўда, а праўда. Што там і на каго крыўдаваць?! Лепш будзем жыць і спадзявацца, што знойдзецца нейкі былы, а можа, і не былы тэатральны дзеяч і паставіць пытанне: а хто ўрэшце больш згубіў — адрынутыя беларускія драматургі, ці беларускі нацыянальны тэатр?

А што да купалаўскай каманды, то я ў яе веру, жадаю ёй здароўя, моцы і сем футаў пад кілем.

P. S. Перадаў бы гэты ліст асабіста, але не ведаю, дзе ты, Іване, зараз працуеш і чым кіруеш. Адгукніся, братка, пагаворым пра грамадзянскую смеласць і актыўнасць. А напісаў я табе, Іване, не дзеля таго, каб ты не падаваў мне рукі пры сустрэчы, а дзеля таго, каб ты стаў барацьбітом, на якую б пасаду ні закінуў цябе лёс ці людзі. Бо калі ўсе Іваны возьмуцца за рукі з усімі Алесямі, упэўнены, што можна будзе шмат зрабіць не толькі для свайго тэатра, але і для сваёй Айчыны-Бацькаўшчыны — малой і вялікай. З надзеяй на дружбу ў агульнай барацьбе.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ.**

# НЕ ЎСЁ ТАК ПРОСТА

Прызнаюся вам шчыра, паважаны Алесь Лявонавіч, у мяне зусім не было жадання адказваць на ваш ліст праз штотыднёвік. Думаў, сустрэнемся мы з вамі без сведак і выкажам адзін аднаму ўсё, нават тое, пра што не прынята друкаваць у газетах. Ды, відаць, размова выйшла за межы прыватнай...

Ваш ліст, паважаны Алесь Лявонавіч, з'явіўся своечасова, хоць і выклікаў у мяне шмат пытанняў. Але перш чым задаць іх, хачу падзякаваць вам за тое, што вы закранулі вельмі балючыя праблемы. Першая — гэта становішча заглітаў у тэатрах рэспублікі. Другая — лёс непастаўленых п'ес. Чаму б нашаму паважанаму штотыднёвіку не распачаць па гэтых праблемах новую дыскусію? Думаю, што на яе адгукнуліся б не толькі мае калегі — памочнікі галоўных рэжысёраў па літаратурнай частцы, — але і шматлікая група драматургаў— і ўжо вядомых, накшталт вас, і пачынаючых. Пачаткам дыскусіі маглі б зрабіцца водгукі не толькі Г. Марчука, У. Сауліча, А. Асташонка і В. Ткачова, але Г. Каржанеўскай, У. Ягоўдзіка, Я. Таганава, Э. Бродта, А. Дзялендзіка, І. Масляніцынай, У. Дзюбы, Я. Мазо... і шмат якіх іншых аўтараў, каму не цяжка было заходзіць у літчастку купалаўскага тэатра. Хацелася б пачуць ад іх не толькі пра «нанесеную мною шкоду», але і канструктыўныя прапановы, як выправіць становішча...

Чаму б вам, Алесь Лявонавіч, не падтрымаць ідэю выдання хоць бы кантрольных экземпляраў п'ес і іх рэцэнзавання на старонках перыядычнага друку? Тым самым скончацца ўзаемныя папрокі і знікнуць непаразуменні паміж тэатрамі і драматургамі. Праўда, я сам не надта даю веры гэтай ідэі. Вы ж першы, калі меркаваць па вашай рэакцыі на мой артыкул, будзеце супраць яе ажыццяўлення. Але калі вы так балюча рэагуеце на галоснасць у друку, чаму б не скарыстаць вопыт маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі і не стварыць у рэспубліцы свой тэатр непастаўленых п'ес?..

Цяпер, Алесь Лявонавіч, наконт вашай прапановы адносна супрацоўніцтва і «працягнутай для поціска рукі». Я гатовы паціснуць яе пры ўмове, што вы шчыра адкажаце на некалькі маіх пытанняў.

Як здарылася, што ў ваш артыкул «Хто і што ў заняпадзе» (часопіс «Полымя», № 4, 1986) праслізнуў вельмі крыўдны для тэатра імя Я. Купалы папрок, быццам ён апошнім у краіне паставіў драму А. Дударава «Радавыя»? Даводжу да ведама вашага і рэдакцыі часопіса «Полымя», што купалаўцы — першаадкрывальнікі гэтай п'есы.

Як разумець, Алесь Лявонавіч, вашу заўвагу наконт 36 купалаўцаў, пра якіх я быццам бы сказаў, што яны «не ўмеюць плаваць»? Навошта ж так груба скажаць сэнс? Размова ішла пра тое, што 20 з гэтага ліку гадамі чакаюць роляў...

У сваім лісце вы назвалі толькі дзве арыгінальныя п'есы, якія з'явіліся ў рэпертуары тэатра пад час маёй працы — «Радавыя» А. Дударава і «Мудрамер» М. Матукоўскага. Дазвольце запытацца, а куды залічаць «Верачку», «Парог», «Вечар», «Апошняга жураўля», «Вяртанне»?

Вы папракаеце мяне за запозненую, а таму нікому не патрэбную «не вялікую мужнасць і нікчэмную дапамогу» тэатру сваім артыкулам... Можа, лепш, паважаны Алесь Лявонавіч, сказаць пра гэта тым акцёрам-купалаўцам, якія гадамі чакаюць роляў?

Прабачце, Алесь Лявонавіч, нясціплы тон маіх пытанняў і парад. З прычыны відавочнай неадпаведнасці вашых добрых намераў і нядобрых сродкаў для іх дасягнення, шукаць іншага тону мне ўжо не выпадала...

**Іван ЧАРКАС.**

Як яшчэ адзін знак Аркадзевай прыхільнасці, прыемна ўспамінаю наш, можна сказаць, сакрэт. Вясной пяцідзесятага года, у лясной і сонечнай, працавітай раскошы Каралішчавічаў ён папрасіў мяне прачытаць яго празаічны рукапіс. Пачатак рамана ці аповесці «Зорка Канікула». У прозе той не было Куляшова,— так сабе аблегчана белетрыстычная канструкцыя. Ён і сам гэта адчуваў, ад сумненняў і даў прачытаць, а я не пакрывіў душою. З' задумы той пасля выйшла паэма «Толькі ўперад!», таксама не з мацнейшых.

У залатым, пагодлівым верасні таго самага пяцідзесятага, у тых самых Каралішчавічах, дзе мы і працавалі, і ў грыбы хадзілі, і захапляліся гарадкамі, Аркадзь прачытаў у «Полымі» маё «Забалоцце», і мы з ім не проста пагаварылі пра гэтую рэч, а разам, некалькі разоў меркавалі пра яе дапрацоўку. Ён параіў аповесць у «Новый мир». Яна там не з'явілася, хоць і не была канчаткова адхілена,— гэта другая гаворка, тут не да месца. Прыемна, што ў тыя лютаўскія дні пяцьдзесят першага года я пазнаёміўся з магутным, складаным і ў набліжэнні прыемна простым Твардоўскім, цану якога я ўсё больш тады пазнаваў, і з яго другім намеснікам, Сяргеем Смірновым, яшчэ не «брэсцкім», для мяне ў той час прыкметным толькі сваёй чалавечнай сціпласцю.

О так, няпроста гэта — дакранацца да другой душы!.. Чалавек пражыў **цэлае жыццё,** а ты бярэшся пісаць пра яго, калі яго ўжо няма, калі ў цябе сціпнаватае права, дараваная лёсам магчымасць успамінаць...

Адзін і так усяго не скажаш, бо кожны, хто ведаў яго, бачыў і чуў па-свойму.

«Ах, які ён быў тады малады!..» Наіўнасць старых — здзіўляцца таму, што звычайна было і звычайна прайшло ў свой час. Аркадзя лічылі і ганарлівым. Ён такім трохі і быў, і здаваўся. Успамінаецца з выступлення Твардоўскага на Другім усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў: «Калі малады чалавек да таго яшчэ і таленавіты, дык чаму яму трохі і не зазнацца?..» Другі на месцы Куляшова зазнаўся б і не так. Хоць і былі ў яго ў той час таксама і нялёгкія хвіліны... Было аднак і адчуванне ўласнай годнасці, і, там дзе трэба, нармальная прастата.

Пасля ваеннага трыумфу потым быў у яго пэўны перапынак, нават і спад, праца ў кіно з вельмі прыблізным поспехам. Калі я аднойчы, ці не на Нарачы, дзе мы летавалі, сказаў яму пра гэта, ён вельмі проста адказаў: «А што мне рабіць? Жыць жа трэба». У графаманаў ні перапынку, ні спаду не бывае, канвеер коціцца роўненька, спраўна...

А потым і свята было, святы дзень паэзіі, калі ён, новы Куляшоў, чытаў нам, Лужаніну, Караткевічу і мне, вершы са сваёй «Новай кнігі». Зноў жа ў Каралішчавічах, вясной шэсцьдзесят другога, у яго любімым ценевым пакоі, з радасным сонцам на соснах, за вялікімі вокнамі. Ранняя была тады вясна. У мяне запісана, што ўжо 13-га красавіка я пачуў салаўя. І такое запісана, тыдні праз два: «Як гэта добра, што на нашай мове ёсць яшчэ і паэзія Куляшова!..»

Неяк Аркадзь расказваў, што, ідучы на сустрэчу са сваімі каўказскімі сябрамі, ён проста баіцца: ці зможа гаварыць з імі, пра іх паэзію, пра новыя вершы з належным напалам хвалы. Бо, праслухаўшы новае, проста сказаць, што ты, браце ці дружа, напісаў добры верш або добрыя вершы — гэтага будзе ледзь не да абразы мала...

Пра яго «Цунамі» я гаварыў у дакладзе, двойчы прачытваў паэму для трох абзацаў пра спалучэнне майстэрства і глыбіні. Пра «Хамуціуса» паспеў сказаць яму асабіста. А пра «Варшаўскі шлях» не сказаў... На яго юбілейным вечары, атрымаўшы слова для тосту, я штосьці гаварыў пра яго, але цяпер здаецца, што не так, не тое... Цяпер сказаў бы яму больш.

Да болю часамі шаблонная фраза: «У асобе яго мы страцілі...» Не, у асобе Аркадзя Куляшова мы— у самым шырокім, трывалым гучанні гэтага мы— набылі, маем паэта, значэнне якога надзейна мацуе вечнасць нашага слова.

ПАЭЗІЯ



Алесь РАЗАНАЎ

# З НОВАЙ КНІГІ

●

Гавару, услухоўваючыся ў саму гаворку: што ў ёй?!.
Гляджу, углядаючыся ў само ўгляданне: што ў ім?!.
Думаю, удумваючыся ў самі думкі: што ў іх?!.

Побач са мной, леваруч, ступае драпежны звер, праваруч—непахібны робат,
наперадзеззяе сонца,
ззаду чарнее цень.

Чым больш я адзіны, тым больш усіхні,
чым больш непаўторны, тым больш увабраў у сябе паўтораў,
чым больш неўміручы, тым болей адкрыты смерці,
чым больш старажытны, тым больш малады.

Мерае чалавека меркай адною зямля, адваротнаю—неба, і меркай двайною сам сябе чалавек.

Звер зыркае на мяне сваім грозным вокам, а робат адну за адной называе лічбы, то адымаючы ад мяне, то прыкладаючы да мяне суму звера і суму сябе...

Я — слова, што вучыцца гаварыць,
думка — што вучыцца думаць,
жыццё — што вучыцца жыць.

## Плынь

Ноччу прыйшла вада — і аддзяліла цела ад цела, слова ад слова, сушу ад сушы, жытло ад жытла,
і ператварыла вуліцы ў рэкі.

Тулячыся да платоў, мы ідзём і ідзём уздоўж плыні, і адыходзім кудысьці далёка, дзе плынь замірае на месцы, а мы пачынаем плысці, як дагэтуль яна сама,—
усё незваротней, усё непазбежней, хаця адзінае, што нам трэба, дык гэта — перайсці на той бок.

## Планета метамарфозаў

Зайшло сонца — і ў небе ўзышла тая загадкавая планета, якая займае наш розум,
якая прыцягвае нашы пагляды,—
планета метамарфозаў.

Па прыхаманлівых нейкіх законах, нібыта яна выпраменьвае свае ўспаміны ці сны, на ёй час ад часу ўзнікаюць постаці наскіх, знаёмых істотаў:
льва,
чалавека,
птаха,
быка.

Што яны азначаюць?
Чаму іх столькі?
Можа, яны нешта сведчаць пра нас, што невядома і нам самім?

Мы нацэльваем на тую планету свае тэлескопы,
шлём да яе сваіх астранаўтаў —
і зблізку, адлегласць адолеўшы, расчароўваемся-распазнаём:
гэта не бык — а зямля,
гэта агонь — а не леў,
гэта не птах — а паветра,
не чалавек — а вада.

Але запаноўвае ноч — і знікае асвойтаная адлегласць, і ў нашым няўзброеным зроку зноўку ўзнікаюць яны — постаці льва, чалавека, быка і птаха, змушаючы нас разумець больш, чым бачым, і бачыць болей, чым разумеем цяпер.

## Мы, людзі

На даляглядзе, у самым канцы пакручастай доўгай дарогі,— сонца,
а на дарозе, ва ўсю яе даўжыню,— мы, людзі...

Калі мы лічым адно аднаго па пальцах — нас шмат,
калі мы лічым адно аднаго па душах — нас мала:
нам яшчэ трэба ўбачыць у іншых сябе,
у сабе — нябёсы, у нябёсах — сонца, а ў сонцы — сонцалюдзей.

Спыніўшыся на дарозе, адны з нас будуюць на ёй жытло. Мы ўжо знайшлі,— яны кажуць,— месца сваё пад сонцам.
Другія, збаяўшыся, што іх у канцы не стане, падаюцца назад, ва ўсё большы цень.
Трэція, аддаўшы дарозе, што іх затрымлівала і цямніла, уваходзяць, быццам у браму новага свету, ў сонца, і самі становяцца сонцам, і ў людзях зямлі прадбачаць сонцалюдзей.

## Атава

Кашу траву, якую касіў перад гэтым,— атаву.
Дыхае восень.
Туманіцца лета.
Кранае званы далячыняў туга.
Незаўважна расце трава, незаўважна мяняюцца поры года.

З аднаго канца лугавіны скіроўваюся ў другі канец лугавіны.
Час, як траву, мяне росціць і час, як траву, мяне косіць, і смерць становіцца нараджэннем, якое нічога не памятае пра тое, што было перад ім.

Спяшайся расці, трава,
спяшайся, адна палова імгнення, злучыцца з другою паловай,—
каб спраўдзіўся некалі цуд, каб паспелі ўсе нарадзіцца і не паспела смерць анікога скасіць касой.

## Парог

Парог урос у зямлю, струхлеў...
Я б'ю па парозе нагою — з яго сыплецца парахня.

Але гэткі ён толькі зверху, далей ён трывалы, далей ён моцны — і шашаль яго не стачыў, і цвіль яго не збуцвіла.

О, яму безліч гадоў,— кажа брат.— І высечаны ён з дрэва, якога цяпер няма ўжо,— са шчырага дрэва, і высечаны людзьмі, якіх гэтаксама няма...

Мы не ўваходзім у хату: у ёй жылі нашы дзяды, у ёй жылі прадзеды нашы, а мы стаім на парозе, на шчырым парозе, і адчуваем, што мы гэтаксама парог, да якога — няма нас, і пасля якога — няма...

Ёсць месца ў набытку і месца ў страты.
Дзе растлумачыцца чалавеку, хто ён такі?
Хаты чакаюць, што вернуцца людзі.
Пыл ацярушваецца на парозе.
Калі мы са светам — мы супраць свету,
калі мы з прыродай — мы супраць прыроды,
калі мы з родам —мы супраць роду...
Мінулае тоіцца ў змроку, будучыня — ў светлыні.

## Пастухі

Яшчэ з лагчын не сышла вада, а тут, дзе гарыць цяпельца, ўжо досыць суха.
Прысеўшы каля цяпельца, чакаю, калі ад далёкага статку прыйдзе мой даўні сябра, з якім я не бачыўся шмат гадоў.

Тут стойбішча пастухоў: хто падыходзіць сюды, а хто адыходзіць, хто прышывае да світкі латку, хто самакрутку няспешна курыць, хто дастае з торбы харч...

«Калі сабраліся ў іхнім двары, каб рэзаць тую карову,— апавядае стары пастух пра аднаго з пастушкоў,— ён раптам збляднеў, быццам смерць, заплакаў, схапіў, што было пад рукою,— шкліну і кінуўся з ёй на людзей.

Моцна сабе ён тады тою шклінай руку параніў, а крыкам, апостальскім нейкім крыкам: нельга рэзаць кароў!..— параніў людзей...»

Я ведаю: колішні той пастушок — гэта ён, мой сябра.
Гляджу на знаёмую вёску, дзе між драўляных хацін паўсталі гіганты-дамы,
гляджу ў агонь пастухоўскі, што супакойвае і непакоіць,
і ў неба, ўсё тое ж неба, дзе сярод белых аблокаў блукаюць разам душы апосталаў і кароў.

## Гліняныя чалавечкі

Зайшоўшы на загуменне, наколваю гліны, мяшаю яе са сваёю слінаю і ляплю, што хоча ляпіцца само,— чалавечкаў.

Гэта — сусед Іван,
гэта — сусед Багдан,
гэта — бацька,
а гэта — маці,
а гэта — я...

Прыходзіць на загуменне сусед Іван, прыходзіць сусед Багдан, прыходзіць бацька, прыходзіць маці і дзіву даюцца, што я іх так добра зляпіў.

Аднак мы самі,— кажуць яны,— жывыя, а вось яны нежывыя, і калі ты іх не ажывіш, мы гэтаксама з часам станем такія ж, як і яны...

Я стаўлю сваіх чалавечкаў на ногі,
адхукваю іх, бы яны закляклі,
упрошваю іх, каб яны ажылі...

Але не чуюць мяне гліняныя чалавечкі і не намерваюцца ажываць.

Пойдуць суседзі, пойдуць бацькі, а я па-ранейшаму буду сядзець на тым загуменні,
і думаць,
і мучыцца,
і шкадаваць, нашто я наогул звязваўся з глінай.

●

Вобразы вабяць услед за сабой, але памкнуся за імі—і іх растворыць прастора: магчыма, яны проста птушкі, якія адводзяць таго, хто ідзе, ад сваіх затоеных гнёздаў.

Заблытаны сцежкі, якія вядуць і на ўсход, і на захад, але на кожным кроку, усюды, ад іх падымаецца стромкая вышыня, і, падымаючыся над сабою, становіцца розумам цела, і, падымаючыся на сабою, розум становіцца ўсёразуменнем, якое, нібы ваданосныя жылы, сабой насычае і жывіць кожнае слова і кожны крок.

Чалавек — гэта два чалавекі, як дзве далоні, што лепяць суладна снежку ці перакідваюць, каб утрымаць, жарыну: адзін з іх — пачатак, другі — завяршэнне, адзін з іх — выток, і другі — сутok, адзін з іх — прычына, другі з іх — вынік, адзін з іх — пытанне, другі — адказ, а паміж імі цякуць, вынікаючы з іх і ўпадаючы ў іх сусветы.

Усё, што кранае мяне, падобнае на мяне.
Не скончаны дзень тварэння: зноўку і зноў вылеплівае чалавек сваю лепшую долю.
Дзеліць мяне прастора, з'ядноўвае час.
Калі чалавек сустрэнецца з чалавекам?
У бездані памяці мгліцца бяссонны ліхтар.

Пачакай, памарудзь, адпусці жаданне —
і ты перастанеш быць часткай, нацэленай супраць усіх,
і вернуцца да цябе тыя птушкі, якія не ловяцца, калі іх ловіш, якія хаваюцца, калі іх шукаеш, і ты пачуеш: у кожнай птушкі — твой голас, і ўбачыш: у кожнай птушкі — твой твар.

БТ: РАЗАМ ЛЯ ЭКРАНА

# ЯК СТАЦЬ ПРЫВАБНЫМ

Яшчэ некалькі гадоў таму назад цяжка было ўявіць, што актуальнасць перадач Беларускага тэлебачання рэзка ўзрасце, пашырыцца кантакт з аўдыторыяй. Вось і за мінулыя тыдні неабыякава і крытычна зірнулі на рэчаіснасць і ўскрылі набалелае перадачы актуальных цыклаў «Урокі перабудовы», «Вашай працай незадаволены», «Наш каментарый», «Грамадская думка». Запомніліся і ўсхвалявалі перадачы, якія расказваюць пра барацьбу з наркаманіяй, шчырай і інтэлектуальнай гаворкай падкупіла перадача «Цяжкія падлеткі». Адметна прагучала з экрана тэма спадчыны: гэта і тэлечасопіс «Радзімічы», і нарыс «Фантазія», размова пра экалагічны музей, і, відаць, самая яркая ў мастацкіх адносінах музычна-паэтычная замалёўка «Нараджэнне песні». Сярод перадач, адрасаваных дзецям, варта адзначыць «Сем колераў радасці». Яна прыцягнула ўвагу пошукамі нефармальных кантактаў з дзіцячай аўдыторыяй. Шмат хто з задавальненнем паглядзеў творчы вечар кампазітара А. Мдзівані (ён прагучаў значна і святочна), а таксама перадачу з удзелам спявачкі Н. Губскай.

Разам з тым, не першы раз даводзіцца канстатаваць, што вялікай колькасці перадач, цікавых сваёй тэматыкай, звычайна нестае прывабнасці. Да прыкладу, надзённы сюжэт аб праблемах кааператываў куды ярчэй выглядае ў сучаснай структуры «Маладзёжнага тэлевізійнага цэнтра», чым у гаворцы за «круглым сталом». Трэба ўлічыць, што такія перадачы, як «МТЦ» ці «Музычна-інфармацыйная праграма», збіраюць самую большую колькасць тэлегледачоў.

Дарэчы, прывабнасць — паняцце неадназначнае і не зводзіцца да ўвядзення ў перадачу модных відэакліпаў. Давайце больш пільна прыгледзімся да апошняга выпуску «МТЦ»: дыскусія пра кааператывы з самымі палярнымі і нават абсурднымі меркаваннямі, камічная і сумная ў адначассе сустрэча з урачом-сексапатолагам, вернісаж, музычная разнастайнасць — на гэты раз і рок, і джаз, і папулярная класіка, і самадзейная песня, і нават музычная пародыя... У перадачы — усе састаўныя элементы прывабнасці: актуальнасць і разнастайнасць тэматыкі, як мінімум. А максімум?.. Умелая, кідкая падача матэрыялу. Таленавітае выкарыстанне сучасных сродкаў выразнасці, прафесіяналізм, вынаходлівасць рэжысёра, аператараў, мастака. Сапраўдны кантакт з аўдыторыяй. Пастаяннае адчуванне хуткаплынных хвілін, імкненне да інфармацыйнай сціслацці і дакладнасці. Эканомія каштоўнага часу — нашага і экраннага. Дынамічны мантаж і, вядома, якасць музычнага матэрыялу. Псіхалогія ўспрымання ўлічана, відовішча не стамляе аднастайнасцю, і пра сум нават згадкі няма. Гэта, як і шмат што іншае, называецца прывабнасцю. Магчыма, перадачы накшталт «МТЦ» — праваобраз, мадэль будучага тэлевізійнага вяшчання, прынамсі: той яго часткі, якая несправядліва носіць назву «немастацкай».

Можна і трэба вітаць цыкл інфармацыйна-музычных праграм, але ягоныя перадачы істотна розняцца адна ад адной. Аддала б перавагу «Тэлеэкспрэсу», які прывабіў прадчуваннем навагодняга свята, а таксама цікавым падборам сюжэтаў і музычнага матэрыялу. Аднак і сюжэты маюць не адну цану: відавочна «нацягнута» выглядаў сюжэт пра каву, ярчэйшымі маглі б стацца інтэрв'ю з Р. Барадуліным, а вось расказ пра У. Караткевіча закрануў, запомніўся і з гумарам вырашаны сюжэт пра рамонт мэблі.

Зусім іншае стаўленне ўзнікла да папярэдняй перадачы цыкла. Няўдалая сама па сабе задума «гульні ў чуткі» не зніттавала матэрыял праграмы. У спалучэнні асобных сюжэтаў вытыркалася неахайнасць, бракавала часам і звычайнай логікі. Да прыкладу, сюжэт з «Джакондай», які неяк дзіўна перайшоў у гаворку пра тое,

ПА ЗАКОНАХ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

# КОРАНЬ І КРОНА

**Па-беларуску слова гэтае гучыць — дружба, сяброўства, па-польску — пшыязнь. Аднак яно ў кожным з вымаўленняў аднолькава блізкае і зразумелае і ў нашай рэспубліцы, і ў Польшчы. Бо за ім — слаўныя старонкі супольніцтва, барацьбы за агульныя інтарэсы і ідэалы; інтэрнацыянальнае братэрства, змацаванае крывёй у час сумеснай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Памятны факт: на Магілёўшчыне, ля пасёлка Леніна атрымала сваё першае баявое хрышчэнне Народнае Войска Польскае і разам з савецкімі воінамі - вызваліцелямі бой з ворагам прынялі байцы дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Яшчэ больш яркіх эпізодаў еднасці, сяброўства звязана з мірнымі днямі, калі дружба паміж беларускім і польскім народамі ўступіла ў новы этап, этап супрацоўніцтва ў сацыяльным будаўніцтве.**

**Гэтыя думкі нараджаюцца пры чытанні кнігі Мікалая Панасюка і Васіля Татуна «Крона вечнага дрэва», выпушчанай выдавецтвам «Беларусь» напярэдадні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Скразной лініяй праз кожны з дваццаці нарысаў праходзяць і асаблівы сэнс набываюць празорлівыя словы Уладзіміра Ільіча Леніна: «Свабода Польшчы немагчыма без свабоды Расіі». Іх, бадай, можна паставіць эпіграфам да гэтага зборніка, кожная старонка якога — споведзь аўтараў аб убачаным на польскай зямлі і ў сябе, на Брэстчыне. Калі ўсю Беларусь яднаюць з Польскай Народнай Рэспублікай вузы сяброўства, дык у Прыбужжы яны асабліва наглядныя. Найлепшае сведчанне таму — не толькі рэгулярныя абмены дэлегацыямі, правядзенне сумесных святаў, спаборніцтва паміж працоўнымі калектывамі. Ёсць у гэтай дружбе і помнік, закладзены і для нашчадкаў — сад савецка-польскай дружбы, размешчаны на плошчы ў 840 гектараў.**

**Нарыс «Крона вечнага дрэва» вяртае ў незабыўныя, памятныя дні, калі беларусы і палякі садзілі дрэвы — падарунак братняга народа. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел і дырэктар Сіналенкскай вопытнай станцыі садоўніцтва Седлецкага ваяводства Станіслаў-Мацей Цыглоўскі. Кволыя саджанцы ён садзіў з дочкамі славутага на Брэстчыне механізатара Васіля Севасцянавіча Шаўчука. Перад гэтым вымавіў словы, якія асабліва дакладна выразілі значнасць моманту: «Я прыехаў сюды, каб закласці сад разам з беларускімі дзяўчынкамі. З Верай — каб людзі верылі ў светлую будучыню, з Надзеяй — каб людзі жылі на зямлі лепшымі надзеямі, з Любай — каб людзі любілі свой народ, сваю Айчыну».**

**Назва кнігі набывае сімвалічны, абагульняючы сэнс. Чытаючы яе, перагортваеш старонкі чалавечых лёсаў — няпростых і вельмі цікавых, бо ў кожным з іх не толькі асабіста перажытае, а і часцінка лёсу народа, нават лёсаў двух народаў-братоў. І гэта не гучныя словы. Іх не трэба баяцца, калі справа тычыцца самага святога. Яны паядноўваюць у сабе тое, што ўжо было, ёсць сёння і будзе заўтра. Абавязкова будзе, бо дружба не ведае часавых межаў, не падуладна старэнню. Наадварот, з гадамі, жывячыся жыватворнымі вытокамі, што пачынаюцца ў душы народнай, становіцца яшчэ больш трывалай і на яе фундаменце цэментуюцца, мацуюцца новыя пачынанні і справы.**

**Кожны з нарысаў глыбока хвалюе, але хацелася б затрымаць увагу на трох з іх. Трох з многіх, бо яны па сваёй тэматыцы, духоўнай напоўненасці ў нечым выражаюць і тое, пра што гаворыцца ў іншых творах. Возьмем нарыс «Ля возера Фірляй». Сітуацыя па-свойму традыцыйная. Прадстаўнікі Піншчыны сустрэліся з польскімі сябрамі, рабочымі аб'яднання «Грацыя». Беларус Міхась Шэдзька пазнаёміўся з удзельнікам польскага Супраціўлення Альфрэдам Хадаем. Многае прыгадаў у час гэтай гаворкі ля кастра стары камуніст, а потым сказаў: «Ніколі не забудзем вашага і нашага слаўнага Сэргіюша». Дзякуючы гэтаму прызнанню для беларускіх юнакоў і дзяўчат яшчэ больш выразна паўстаў вобраз легендарнага Сяргея Восіпавіча Прытыцкага, актыўнага ўдзельніка барацьбы ў былой Заходняй Беларусі, вядомага партыйнага і савецкага дзеяча.**

**Ці ўзяць нарыс «Сказ пра Богуся»... Багуслаў Багданавіч Вільчкоўскі, паляк па нацыянальнасці, сын дробнага памешчыка, у гады Вялікай Айчыннай вайны стаў разведчыкам аднаго з атрадаў партызанскай брыгады «25 год БССР», мужна змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ведаючы, што перамога над ворагам патрэбна і яго роднаму народу. Пасля вайны працаваў паляводам, брыгадзірам, быў старшынёй калгаса «Іскра» Баранавіцкага раёна, загінуў ад рук бандыта. Вільчкоўскі пасмяротна ўдастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Яго імем названы калгас, вуліца ў Баранавічах...**

**На Століншчыне добра ведаюць польскага настаўніка Уладзіслава Кіеўскага. Выхоўваючы вучняў у вёсцы Беражное пры белапалянах, ён прывіваў ім любоў да гісторыі роднага краю, збіраў матэрыялы аб мінулым вёскі і яе ваколіц. У гады вайны змагаўся з фашызмам. Лёс мужнага настаўніка-інтэрнацыяналіста паўстае са старонак нарыса «Святыня».**

**Тры нарысы з дваццаці, але і з іх добра відаць, як у розныя гады дружба беларускага і польскага народаў давала свой жаданы плён, дапамагаючы абодвум выстаяць у барацьбе за светлую будучыню. Гэткі ж інтэрнацыянальны пафас і ў нарысаў «На вышыні 215,5», «На крылах дружбы», «Адна ноч у Аснежыцах», «Чорны рамонак» і іншых. Ды і ўся кніга ўспрымаецца гімнам супольніцтву беларусаў і палякаў.**

**Дарэчы, на гэтых аспектах засяроджвае ўвагу ў прадмове кандыдат філасофскіх навук У. Вялічка. У Польшчы вырашана стварыць шматтомную кнігу памяці савецкім воінам, што загінулі за свабоду польскага народа. Аб кожным з 600 тысяч загінуўшых абавязкова будзе нейкая звестка: ці то здымак, вытрымка з ліста родным, альбо копія надпісу на брацкай магіле. Кніга «Крона вечнага дрэва», нельга не пагадзіцца з У. Вялічкам, «выконвае як бы сустрэчную ролю — расказвае аб палянах, загартаваўшых свой характар, волю да перамогі на франтах Вялікай Айчыннай ці навечна застаўшыхся ляжаць у старадаўняй рускай зямлі».**

**...У нарысе «Крона вечнага дрэва» гучыць даўняя легенда, згодна якой з-пад Грунвальда, разграміўшы ворагаў, вярнуліся беларус і паляк з чаранком казачнага дрэва. Расквітнела яно, пацягнулася да сонца, але суседзі пасварыліся і дрэва пачало чахнуць. Праз гады, калі зноў запанавалі на зямлі мір і дружба, вырашана было пасадзіць малады сад. На месцы старога дрэва заўважылі маленькі парастак. Зразумелі людзі: ёсць корань — будзе і крона. Адзін жа з колішніх грунвальдцаў Мікіта, паміраючы, склікаў сыноў: «Корань у нас — мацней не знойдзеш. Беражыце, дзеці, крону ад ураганаў, і будзе дарыць яна сакавітыя плады — вечнае жыццё, радасць і шчасце на зямлі».**

**Сапраўды, дрэву дружбы нашых народаў вечна квітнець!**

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

**Георгій КОЛАС**

# „Чы гараст, сподару?“

**Завяршаю працу над разгадкай таямніц «Камедыі» Каятана Марашэўскага. Ёй у снежні споўнілася два стагоддзі. Не пранікаючы ў рэальны тагачасны фон і ў «перадгісторыю», мы рызыкуем апынуцца ў ролі гледача, які мяркуе аб спектаклі па яго фінале, бо не бачыў, што было ў пачатку. А ў пачатку быў — інтэрмедыйны жанр. Пачнём з яго — ад першай польска-беларускай інтэрмедыі. Яна цікавая яшчэ і тым, што прататыпам аднаго з яе герояў быў вядомы беларускі гуманіст XVI ст. Сымон Будны. Такая, прынамсі, рабочая гіпотэза...**

Як зірнуць на гістарычную рэальнасць без сканструяваных, загадзя падрыхтаваных схем, дык выявіцца, што літаратурны білінгвізм у першых польска-беларускіх творах пачынаўся не з антаганізму, і што мова беларуская ўваходзіла ў літаратуру польскую — не адчуваючы сябе «смяшнейшай» ці «ніжэйшай».

Першы з нам вядомых твораў з польска-беларускім білінгвізмам — віленская інтэрмедыя (ці больш дакладна — скетч) кракаўскага езуіта Каспара Пянткоўскага «Цімон Гардзілюд».

Зазначым гэту акалічнасць: твор, па гістарычных звестках — «віленскі», а аўтар — «кракаўскі»...

Сюжэт — літаратурнага паходжання. Магчыма, пераняты з Лукіянавага «Мізантропа», перакладзенага на французскую Ф. Брэтанам (1582) — за два гады да паяўлення «віленскага» скетча (1584). Не выключаюцца і іншыя крыніцы пераймання — Баярдо, Мантэнь: Цімон Афінскі як асоба-з'ява-вобраз сустракаецца ў літаратуры Адраджэння ў італьянцаў, англічан, іспанцаў і французаў, потым трапіць да Шэкспіра. Так альбо інакш — не лішне зацікавіцца, з якой нагоды езуіт К. Пянткоўскі звярнуўся да антычнага Цімона і адкуль з'явілася ў ягоным (езуіцкім!) скетчы гэткая кантамінацыя:

Ці вы чулі пра мяне — чалавек я слынны,
Наймудрэйшы з мудрацоў грэчаскіх Афінаў.
Я — Цімон. Я — Мізантроп (грэкі так празвалі),
А палякі мне б імя Гардзілюда далі.
Пагарджаю я людзьмі. Ненавіджу — скоты!
Людзі, добрыя ці злыя, ўсе яны — гідоты...

Мой непрафесійны пераклад — амаль даслоўны. І таму раблю спасылку — толькі на адзін радок з арыгінала, у якім К. Пянткоўскі супрацьпастаўляе гэткай мізантропіі — пазіцыю сваіх сучаснікаў і суайчыннікаў («Polacy Gardziluda imje, by mi dali»). Змест радка з'яўляецца, па сутнасці, сюжэтам скетча — да Цімона ў старажытныя Афіны заяўляецца спачатку Шляхціч, задае яму свае пытанні, той адказвае пагардлівым маўчаннем, потым да Цімона Гардзілюда заяўляецца «русін» (цытую — не перакладаючы, з Дramatów staropolskich»):

Вельмі прамудры чловек такі ту, сказалі,
Под тон скалон мешкае, Пілозоп его звалі.
Хочу его погледзіць. Чы гараст, сподару?.

Беларус альбо «русін» стараецца з Цімонам гаварыць па-польску, са сваім «акцэнтам» (ці сам аўтар піша «па-русінску», са сваім «акцэнтам»?). Так альбо інакш — антаганізму моўнага няма. У Шляхціча з Русінам, калі ўважліва прыслухацца да іх пытанняў, запраграмавана нават пэўнае «сумежнае» адзінства, — іх пытанні да «пілозопа» перакрыжоўваюцца на агульнасці праблем. У Шляхціча: «Чаму сабака вые з голаду?». Філосаф адмаўляецца адказваць. У Шаўца: «Чэму сэн скура курчыць, колі огень грэе?» Звёўшы два пытанні разам, у адно, мы ў іх пачуем і адказ: сабака ў галадзе і скурчаны ў агні скурат ператвараюцца ў два сімвалы адной **бяды!** Яшчэ пытанне Шляхціча: «Чаму зямля не нараджае зорак з неба яснага?» І — «парафраз» Шаўца: «Чэму не вонее муй дзегець так хорошо, як в городзе зеле?» Аўтар ускладняе асацыятыўны рад, уводзячы пытанні ва ўзаемадзеянне — па прынцыпу ўзаемаўдараў крэсівам аб крэмень: высякае іскру новай думкі. Білінгвізм ператвараецца нібы ў адзінства мовы: Шляхціч і Шавец гавораць не «па-польску» ці «па-беларуску», а — «па-чалавечы»? І яны абодва вынеслі «пілозопу» амаль аднолькавы прысуд: «Калі не хочаш жыць з людзьмі — жыві са свіннямі» (у Шляхціча), і «Бес ты, не пілозоп!» (у Шаўца). Галоўнае выпрабавальнае пытанне «чы гараст, сподару?» — высвятляецца спаўна: «Такі вельмі дурны».

Ці можна поўнасцю, безагаворачна згадзіцца з польскімі даследчыкамі (Юліан Лявянскі, Пауліна Левін), што К. Пянткоўскі — **першы** пачынальнік «польска-рускіх» (польска-беларускіх) інтэрмедый? У храналагічным плане — мабыць, так. Аднак Русін К. Пянткоўскага ні мовы беларускай, ні характару нацыянальнага, па сутнасці, не мае, — чыста вонкавы акцэнт, «кулёр лакаль»?..

І усё ж — акцэнт... І ўсё ж — дакладная «прапіска» (віленскі)... І ўсё ж — прафесія (шавец)... І ўсё ж — маршрут вандроўкі: з Вільні ў старажытныя Афіны... Незвычайныя для жанру інтэрмедыі «канкрэтнасці»?.. Яны, вядома, інтрыгуюць...

Польскія даследчыкі (і разам з імі А. Мальдзіс) адзначаюць, што антычнасць у К. Пянткоўскага ўключаецца ў сюжэтнае ўзаемадзеянне з «мясцовым» элементам, — быццам для стварэння